беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

№ 9 (47)
13 траўня 1996 г.
панядзелак

выходзіць у панядзелкі

КУЛЬТУРА, ПАЛІТЫКА
ТЭЛЕПРАГРАМА
БІРЖА ПРАЦЫ

*Салідарнасьць*

## ВЯЗЬНІ РЭЖЫМУ



Калі рыхтуецца гэты нумар, прафэсар Юры Хадыка пятнаццатыя суткі за кратамі працягвае галадаваньне. Тамсама, у сьледчым ізалятары на вул. Валадарскага ў Менску, галадуе сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык.

*Падрабязна пра гэта, а таксама пра навукоўца Юрыя Хадыку — на старонцы 3.*

*З друку*

## ЛУКАШЭНКАЎ ПРАЕКТ

Апошнім часам шмат жарсьцяў у прэсе ўзбудзіў праект пабудовы аўтастрады, якая б, абмінаючы Літву, праз тэрыторыю Беларусі й Польшчы злучала Калінінград з Расеяй. Дагэтуль невядомага аўтара праекту выкрыў галоўны рэдактар часопіса "Kultura" (Парыж) Ежы Гедройць:

"Польскія афіцыйныя крыніцы, гэтаксама, як і расейскія ўлады, катэгарычна адмаўляюць гэтую інфармацыю, сьцьвярджаючы, што гэта былі ўсяго толькі асобныя праекты, якія прапаноўваў прэзыдэнт Беларусі Лукашэнка. Аднак ня ўсё ў гэтай справе ясна. Мяркуючы з тэлевізійных інтэрвію некалькіх ваяводаў, яны выказалі зацікаўленасьць такой прапановай і ўключыліся ў рэалізацыю праекту аўтастрады. Гэта альбо свавольства ваяводаў, зацікаўленых лякальнымі справамі, альбо нехта тут хлусіць".

# 14.05.1995 ПАБЯДЗІЛІ...



*Яны хацелі лепшага жыцьця, а выбіраць трэба было паміж глыбейшай і проста інтэграцыяй з Расеяй, паміж "старым" і "новым" гербам і сьцягам, паміж "большымі" і канстытуцыйнымі паўнамоцтвамі прэзыдэнта, паміж адной мовай на паперы, што азначала дзьве ў рэальнасьці, і дзьвюма на паперы, што азначала адну ў жыцьці... Яны паслухаліся яго і "пабядзілі", а аказалася — гэта ён адзін "пабядзіў" кагосьці зусім іншага, а яны — са сваім жаданьнем лепшага жыцьця — тут увогуле ні пры чым.*

*Рэфэрэндум 1995.05.14 увайшоў у гісторыю як зьява не зусім зразумелая і не зусім чыстая. Ад народу патрабавалася адно — выказаць падтрымку прэзыдэнту, які сьцьвярджаў сябе праз адмаўленьне — праз фактычнае разбурэньне сувэрэнітэту краіны, праз забыцьцё гісторыі, праз дэнацыяналізацыю.*

*Сёньня ўжо ніхто не асьпрэчыць, што за год пасьля рэфэрэндуму жыцьцё ніяк не палепшылася. Наадварот, яно самое стала "не зусім зразумелае" і "не зусім чыстае". Што будзе заўтра? — усё больш абстрактнае пытаньне, на якое ўсё менш хочацца шукаць адказу. І тым ня менш. Практыка пяцігадовага "ўсё большага збліжэньня з Расеяй" паказвае, што яно ніяк не ўплывае на паляпшэньне жыцьця людзей тут. Мы жывем пад дзяржаўнай сымболікай, створанай адно каб завесіць ёй гістарычныя герб і сьцяг. Немагчыма ўявіць сабе калёны маладых дэманстрантаў пад Лукашэнкавымі сьцягамі. Гэтаксама, як немагчыма ўявіць сабе Лукашэнкаў сьцяг ў шэрагу сьцягоў краінаў аб'яднанае Эўропы дзе-небудзь у Страсбургу. Немагчыма вытлумачыць гэтую сымболіку з гледзішча эстэтыкі, бо за гэтай сымболікай няма пазытыўнага ідэалу. Бо яна створаная СУПРАЦЬ пазытыўнага ідэалу.*

*14 траўня 1995 году 1 млн. грамадзянаў Беларусі выказаўся супраць прапановаў А.Лукашэнкі, гэта значыць: за незалежнасьць краіны, за беларускую мову, за бел-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоня, за непераўвышаныя паўнамоцтвы прэзыдэнта. Яшчэ 1 млн. беларусаў сказалі "не" самому рэфэрэндуму. Сёлетнія красавіцкія падзеі ў Менску паказалі, што асноўная маса патрыётаў краіны — гэта маладыя людзі, якія не настальгуюць па БССР і тагачаснай сымболіцы, не прымаюць адмысловай Лукашэнкавай этыкі і эстэтыкі. Калі ж улічыць, што і сярод моладзі гэтыя — найбольш актыўныя й сьвядомыя людзі, то можна дапусьціць, што ў нас ёсьць пэрспэктыва. Нягледзячы на тое, што 1995.05.14 мы самі сябе "пабядзілі"...*

*Мікола Статкевіч:*

## "ХТО ПАЛОХАЕЦЦА, ТОЙ ГІНЕ"



*Старшыня Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады Мікола Статкевіч адказаў на пытаньні карэспандэнта "Нашай Нівы" Алега Дашкевіча.*

**"НН": Пасьля 1 траўня, калі Вы ўзначалілі калёну дэманстрантаў пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, ці мысьліце Вы сябе ў ролі палітычнага лідара нацыянальнага адраджэньня?**

**М.С.:** На маю думку, можна быць палітычным лідарам ці лідарам пэўных палітычных плыняў, але не нацыянальнага адраджэньня, бо адраджэньне духоўнасьці, культуры, мовы — гэта задача, якую нельга вырашаць у працэсе звычайнай палітычнай барацьбы. Яе будуць вырашаць тыя патрыятычныя палітыкі, якія прыйдуць да ўлады. Але ў працэсе змаганьня за ўладу падымаць лёзунгі нацыянальнага адраджэньня як асноўныя — гэта заведама пройгрышны варыянт. Людзі на выбарах ва ўсім сьвеце галасуюць за матэрыяльнае, за дабрабыт. І таму трэба, каб у нас усе асноўныя палітычныя ідэалёгіі ўзначальвалі людзі патрыятычныя, нацыянальна сьведамыя.

*Працяг на стар. 4*

## навіны 1-м сказам......

**ТУРМА**. Юрыю Хадыку і Вячаславу Сіўчыку, якія зьняволеныя ў сьледчым ізалятары на вул. Валадарскага ў Менску, прад'яўленыя абвінавачаньні паводле артыкулу 186-3, які прадугледжвае зьняволеньне да 3-х гадоў. Вязьні працягваюць галадоўку.

**ДУДАЕЎ**. З ініцыятывы Вітаўтаса Лансбергіса дэпутаты Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы ўшанавалі памяць Джахара Дудаева ўставаньнем і хвілінай маўчаньня. З расейскай дэлегацыі ўстаў толькі Сяргей Кавалёў.

**ШПІЯНАЖ**. Эстонія выслала расейскага дыплямата ў адказ на высылку з Расеі эстонскага дыплямата, абвінавачанага ў шпіянажы.

**СТУКАЧЫ**. У Эстоніі ў супрацоўніцтве з савецкім КГБ ды нямецкім Абвэрам прызналіся 1153 чалавекі.

**НЕ АБ'ЯДНАЛІСЯ**. Дзьве траціны жыхароў Брандэнбургу выказаліся на мясцовым рэфэрэндуме супраць зьліцьця іх гораду з Бэрлінам.

**ПАНІКА**. Распачаліся панічныя ўцёкі жыхароў сталіцы Лібэрыі Манрові, дзе дагэтуль працягваюцца крывавыя разборкі паміж варожымі групоўкамі, што суправаджаюцца рабункамі ды марадзёрствам.

**ПРЫМІРЫЛІСЯ**. Швэцыя ды Сан-Марына падпісалі мірнае пагадненьне пра спыненьне вайны паміж дзвюма краінамі, што распачалася ажно 350 гадоў таму.

**СУ-25**. Чачэнскія змагары за незалежнасьць здолелі зьбіць расейскі рэактыўны штурмавік СУ-25.

**ШАХМАТЫ**. Гата Камскі пагадзіўся прыехаць у Элісту, дзе вырашана правесьці мач за званьне чэмпіёна сьвету паводле вэрсіі ФІДЭ паміж ім ды Анатолем Карпавым.

**СКАРАЧЭНЬНЕ**. У Менскім аблвыканкаме праведзена скарачэньне штату на 51 чалавека.

**ЗАДУШЫЛІ**. З прычыны завысокіх падаткаў амэрыканская фірма IBM вырашыла спыніць вытворчасьць сваіх пэрсанальных кампутараў у Расеі.

**ШПІЯНАЖ-2**. Расейскія ўлады абвесьцілі пра высылку 9 брытанскіх дыпляматаў, абвінавачаных у шпіёнскай дзейнасьці.

**СЬВЯТА**. У Чачэніі на сьвяткаваньне дня Перамогі было выдаткавана 7 млрд. расейскіх рублёў.

**"ТАВАР"**. У ЗША адбыўся аўкцыён, на якім за 76 тыс. даляраў прадалі права згуляць у гольф з прэзыдэнтам Клінтанам.

**РЭЙТЫНГ**. Інстытут Белінфармпрагноз пры Адміністрацыі прэзыдэнта апублікаваў вынікі свайго апытаньня ва ўсіх рэгіёнах краіны за красавік. На пытаньне "Калі б у бліжэйшы час адбываліся выбары прэзыдэнта Беларусі, за каго б вы прагаласавалі?" атрыманыя наступныя адказы:

| Рэгіёны | Менск | Менская вобл. | Віцебская вобл. | Берасьцейская вобл. | Гарадзенская вобл. | Гомельская вобл. | Магілёўская вобл. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Багданкевіч С. | 10.56 | 6.67 | 2.03 | 10.64 | 4.31 | 3.27 | 2.96 |
| 2. Ганчарык В. | 3.73 | 3.33 | 1.35 | 3.55 | 2.59 | 0.67 | 11.85 |
| 3. Калякін С. | 1.86 | 4.00 | 2.70 | 2.84 | 2.59 | 0.65 | 5.93 |
| 4. Лукашэнка А. | 15.53 | 33.33 | 41.89 | 29.08 | 21.55 | 30.07 | 24.44 |
| 5. Пазьняк З. | 8.70 | 2.67 | 5.41 | 6.38 | 6.03 | 4.58 | 1.48 |
| 6. Ціхіня В. | 4.97 | 1.33 | 1.35 | 7.80 | 1.72 | 1.96 | 0.74 |
| 7. Чыгір М. | 0.62 | 2.00 | 0.00 | 0.71 | 1.72 | 0.00 | 0.00 |
| 8. Шарэцкі С. | 0.00 | 1.33 | 2.03 | 2.13 | 2.59 | 0.00 | 0.74 |
| 9. Іншыя | 4.97 | 3.33 | 2.70 | 2.13 | 3.45 | 1.31 | 2.96 |
| 10. Супраць усіх | 18.1 | 20.67 | 16.89 | 11.35 | 14.66 | 15.03 | 16.30 |
| 11. Цяжка сказаць | 27.33 | 19.33 | 27.70 | 21.28 | 38.79 | 45.1 | 31.85 |

# Усходнеславянскі расізм

Для ўсталяваньня таталітарнага рэжыму прэтэндэнты на гэтую ролю маюць патрэбу ў завершанай і абгрунтаванай ідэалёгіі. Падобная ідэалёгія мусіць быць шырэйшай за дзяржаўную й нацыянальную. Апошнія спрабуюць выпрацаваць інтэгральныя мадэлі грамадзкага разьвіцьця, сьцьвердзіць ідэалы сваёй дзяржавы і культуры ў шматнацыянальным сьвеце. Таталітарная ж ідэалёгія мусіць забясьпечваць каставыя інтарэсы ў бясконцай барацьбе за дамінаваньне. Для таталітарнай ідэалёгіі воля індывідуума мусіць выяўляць волю й інстынкт групы. Нацыяналізм жа, наадварот, прадукуе салідарнасьць індывідуумаў.

Тут, у Беларусі, мы зьяўлясмся сьведкамі актыўных пошукаў рэжымам свайго ідэалягічнага апраўданьня. Адзін з варыянтаў такой ідэалягічнай санкцыі — культ асобы, і пра яго варта будзе гаварыць крыху пазьней, пасьля накапленьня такой крытычнай масы фактаў, калі ўжо можна казаць не пра адзінкавыя выпадкі, але пра зьяву. Яшчэ адзін варыянт для рэжыму — гэта камунізм, які ў сацыялёгіі XX ст. разглядаецца як найбольш моцны антыпод нацыяналізму. Але абставіны склаліся так, што трансьлятары камуністычнай ідэалёгіі (ня носьбіты, кола якіх значна шырэйшае і не абавязкова супадае з трансьлятарамі) зьяўляюцца праціўнікамі сёньняшняга рэжыму з тактычных меркаваньняў. Застаецца яшчэ адзін варыянт выхаду з ідэалягічнага крызысу — ідэалёгія расы, няхай нават уяўнай. 1995 — першая палова 1996 году дае багата назіраньняў над спробамі разьвіцьця гэтага сюжэту.

Самыя сур'ёзныя палітычныя акцыі ў Беларусі: рэфэрэндум траўня 1995 г., падпісаньне дамовы пра "Сообщество", сілавое падаўленьне апазыцыі, — абгрунтоўваліся расавымі лёзунгамі ўсходнеславізму. Максымальна выразна гэтая дактрына была адлюстраваная ў сьнежаньскім 1995 г. звароце А.Лукашэнкі да выбарчых блёкаў Расеі напярэдадні выбараў у Дзяржаўную думу. Працытуем: "Альтэрнатывы збліжэньню дзьвюх брацкіх дзяржаваў, Беларусі і Расеі, не існуе, таму што ў беларускага і расейскага народаў адзіная шматвяковая гісторыя, адзіны нацыянальны, культурна-духоўны і маральны код — гэта славянства". І яшчэ: "Дэфармаваць якім-небудзь чынам патрэбнасьць двух народаў у аб'яднаньні, з-за генэтычнай сутнасьці гэтага фэномэну, беспэрспэктыўна й немагчыма". Гэты генэтычны код і зьяўляецца стрыжнем ідэалёгіі расізму.

***Фактар паходжаньня вельмі важны і для нацы***яналізму. Але адрозьненьні ў разуменьні прынцыпу супольных вытокаў у нацыяналізме й расізме вельмі значныя. Для нацыяналізму паняцьці супольнай Радзімы ды гістарычнай саматоеснасьці важныя як базавыя прынцыпы фармаваньня нацыі. Але нацыя зьяўляецца найперш культурным фэномэнам. Для сацыяльных групаў, што становяцца нацыямі, вызначальныя: агульная і ўнікальная гісторыя й культура, стабільная тэрыторыя, супольныя пачуцьці салідарнасьці, адзіная эканоміка, і, што надзвычай важна, — роўныя грамадзянскія правы для ўсіх. Як адзначаў Энтані Сьміт, ідэалы грамадзянства й незалежнасьці, супольнай Радзімы, гістарычнай саматоеснасьці, што такія важныя для нацыяналістаў, адыгрываюць нязначную ролю ў расісцкім мысленьні. Расізм патрабуе групавой адпаведнасьці, у той час як нацыяналізм — культурнай самаідэнтыфікацыі. Расізм уважае за галоўныя чыньнікі гісторыі й культуры грамадзтва фізычныя адрозьненьні; унікальныя спадчынныя фізычныя рысы вызначаюць усе мэнтальныя атрыбуты насельніцтва. Вось як расшыфроўваецца тэза пра славянскі генэтычны код, які, паводле плянаў рэжыму, "павінен" вызначаць ходу гісторыі для Беларусі.

Напрыканцы XX ст. расісцкія ідэалёгіі мадэрнізаваліся. Пачуцьцё расавае переавагі, культурнае й абарончае, стала гучаць прыглушана. Затое расавая агрэсіўнасьць набыла мілітарысцкі ды эканамічны аспэкты. Для Беларусі рэалізацыя прынцыпаў усходнеславянскага расізму азначае падпарадкаваньне расейскім манаполіям і ўцягваньне ў халодную вайну з заходнімі дэмакратыямі.

Вельмі важным зьяўляецца разуменьне таго, што ідэалёгія славянскага расізму канфліктуе зь неізаляцыяністцкай ідэяй славянскай ідэнтычнасьці, якая ў пэрыяд нацыянальнай эмансыпацыі славянскіх народаў у XIX — пачатку XX ст. знаходзіла адлюстраваньне ў ідэях панславізму. Тады гэта была абарончая рэакцыя народаў, залежных ад Турцыі й Аўстра-Вугоршчыны. Славянская ідэнтычнасьць разьвівалася ў рэчышчы асэнсаваньня фэномэну Сярэдняй Эўропы. Прыклад славянскага адраджэньня стымуляваў дзейнасьць беларускіх культурнікаў тае эпохі. Цяпер жа, пад лёзунгамі славянскай еднасьці спрабуюць разбурыць беларускую ідэнтычнасьць.

Канстатуючы прыкметы фармаваньня расісцкай ідэалёгіі ў Беларусі, варта адзначыць іх бясплённасьць. У кола "правільных" (гэта значыць, тых, якія павінны знаходзіцца пад дамінацыяй Расеі) славянаў адыёзныя ідэолягі ўжо ня могуць уключыць ня тое што Чэхію ды Славенію, але і Ўкраіну, якая адстойвае свой сувэрэнітэт. Уся "славянская еднасьць", паводле прынцыпаў іхняй палітыкі, — гэта поўная залежнасьць Беларусі ад Расеі ды дэструкцыя беларускага грамадзтва. Але гэта менавіта дэструктныя ідэі. Таму расісцкія лёзунгі маюць абмежаваныя магчымасьці ўзьдзеяньня на грамадзкую сьвядомасьць.

Рэжыму давядзецца паэкспэрымэнтаваць, праявіць большую вынаходлівасьць.

Мы ж застанемся пры сваім.

Алег Дзярновіч

"Наша Ніва"
незалежны тыднёвік
НАША НІВА
заснаваны ў 1906,
адноўлены ў 1991
заснавальнік і выдавец Павал Жук
рэдактар Сяргей Дубавец
адказны сакратар Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі
навіны Уладзімер Бараніч
рэдактар дадатку "Інфарматар" Андрэй Лапцёнак
макет Віктар Корзун
мантаж Лявон Раманчык
набор Тацяна Чуйвід
стыліст Антон Кузьміч
карэктура Сяргей Сматрычэнка
пры ўдзеле Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі Зьміцер Бартосік
(тэл. 56-94-36)
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 36-76-75
Падпісны індэкс 63125

## КРАІНА

**ГАЛАДОЎКА.** Управа Сойму БНФ зьвярнулася да Юрыя Хадыкі ды Вячаслава Сіўчыка з просьбаю спыніць галадоўку пратэсту, на што тыя далі пісьмовую адмову. Такім чынам галадоўка пайшла на трэці тыдзень. Зянон Пазьняк праз радыё "Свабода" таксама заклікаў калегаў спыніць галадоўку.

**"КАЧКА" АНДРЭЯ ПЕРШАЗВАНАГА.** БЕЛТА распаўсюдзіла інфармацыю пра прысуджэньне А.Лукашэнку ордэна Андрэя Першазаванага. Рэч абсалютна неверагодная, бо гэта царкоўны ордэн, найвышэйшая узнагарода РПЦ і зьвязаная яна з духоўнымі заслугамі, а атэістам не выдаецца, хай сабе й праваслаўным. Карэспандэнт Радыё "Свабода" правёў журналісцкае расьсьледаваньне. Ён затэлефанаваў шэрагу функцыянэраў Маскоўскага Патрыярхату. Тыя растлумачылі, што ніякага ордэна Лукашэнку не давалі й даваць не маглі, бо гэта было б не да чыну. Бо прысуджаецца гэты ордэн выключна архірэям пасьля рашэньня патрыярха ды Сыноду РПЦ, і ўручае яго толькі сам патрыярх.

**ОПІЮМ.** Супрацоўнікі Першамайскага РАУС Менску затрымалі 20-гадовага наркамана. Прыператрусе ў яго на кватэры было знойдзена 1.5 кг макавай саломкі. Толькі сёлета ўсяго ў Менску міліцыя сканфіскавала блізу 44 кг наркатычных рэчываў. Паводле міліцэйскай статыстыкі, за апошнія дзесяць гадоў колькасьць сканфіскаваных наркотыкаў павялічылася амаль у 22 разы. А колькасьць саміх наркаманаў у параўнаньні з 1985 г. – у 120 разоў.

**ЭМБАРГА.** Забаронены ўвоз на тэрыторыю Беларусі жывёлы й прадуктаў жывёлагадоўлі зь дзяржаваў Эўрапейскага Саюзу, а таксама іх рээкспарт з рэспублікаў СНГ ды краінаў Балтыі. Як паведамляе БЕЛТА, такое рашэньне прыняў Кабінэт Міністраў у сувязі з шырокім распаўсюджаньнем хваробы "шалёнай каровы" сярод буйной рагатай жывёлы ў Вялікабрытаніі, Швэйцарыі, Партугаліі ды Ірляндыі. Пад эмбарга патрапілі эмбрыёны, корм жывёльнага паходжаньня, гэта значыць, мясная ды мяса-касьцяная мука, харчаваньне для катоў ды сабак.

**ПЯРЭВАРАТНІ.** На сёньняшні дзень у Беларусі налічваецца блізу 200 транссэксуалаў. Суадносіны паміж мужчынамі ды жанчынамі вызначаюцца як 20:1. Сорак зь іх зьвярнуліся да лекараў з просьбаю зьмяніць ім пол на процілеглы. Сярэдні ўзрост ахвотных – 23-27 гадоў. З 1992 г. з мужчынаў у жанчынаў ды наадварот перакінуліся 12 чалавек. Астатнія праходзяць праз даўгую працэдуру сэксапаталягічнай, псыхалягічнай, генэтычнай ды іншых экспэртызаў. Пры станоўчым рашэньні пярэваратням трэба заплаціць шпіталю, дзе будзе рабіцца апэрацыя, па 600-700 даляраў. Пасьля чаго лекары з Машы зробяць Мішу, і наадварот. На Захадзе падобныя апэрацыі каштуюць у некалькі дзясяткаў разоў болей.

**НУМАРЫ.** Прынятае рашэньне пра замену нумарных знакаў на аўтамабілях. Сёлета ў першую чаргу будуць мяняць нумары самага старога СССРаўскага ўзору, дзе на чорным фоне стаяць белыя сімвалы. У наступным годзе будуць заменены нумарныя знакі з чорнымі сымбалямі на белым фоне, што стаяць на транспартных сродках індывідуальных уладальнікаў, прадпрыемстваў, арганізацый ды ўстаноў. Замена будзе адбывацца за кошт саміх уладальнікаў транспарту. Кошт замены складае тры мінімальныя месячныя заробкі. За тэхпашпарт давядзецца выкласьці яшчэ 1,3 мінімальныя зарплаты. Пры выдачы новага нумару замены тэхпашпарту не патрабуецца.

**НА "ЗОНЕ" ЦЕСНА.** Паводле апошніх звестак, у Беларусі ў больш як дваццаці папраўча-працоўных калёніях ды турмах, сямі сьледчых ізалятарах утрымваецца 53.314 чалавек. Пры гэтым іх ліміт складае 40 тыс. Гэта выклікае перапоўненасьць "магутнасьцяў". Так, у сьледчых ізалятарах на 1 спальнае месца прыпадаюць 2 чалавекі, нягледзячы на трох'ярусныя нары. Харчаваньне ў турэмных сталовых адбываецца ў 4-5 зьменаў, з 4.30 да 23.00. У калёніях сытуацыя ўскладняецца яшчэ адсутнасьцю працы для зьняволеных. Штодня на працу не выходзяць 70-75% асуджаных. У 1995 г. на ўтрыманьне г.зв. спэцкантынгенту было выдаткавана зь дзярбюджэту болей за 300 мільярдаў рублёў. Цяжкая застаецца і крымінагенная абстаноўка ў месцах зьняволеньня. Па розных каналах у калёніі паступаюць грошы, наркотыкі, гарэлка. Летась у асуджаных ды абвінавачаных было сканфіскавана болей за 4 тыс. прадметаў "халоднае" зброі, 1394 літры сьпіртнога, каля 40 млн. рублёў грошай, 15 кіляграмаў наркатычных рэчываў.

## *Пошта*

# ІМАВЕРНЫ ПРАЦІЎНІК

На занятках па ГПП (дзяржаўна-праўная падрыхтоўка) у Печах таварыш маёр закладаў у шэрае рэчыва абстрыжаных курсантаў ваенную дактрыну РБ. Беларусь — нэўтральная дзяржава, але войска нам трэба, бо вось і Літва друкуе карты, дзе прэтэндуе на нашыя землі, у Польшчы пра "крэсы" згадваюць ды большую частку польскага войска трымаюць на ўсходніх межах з СНГ, дый NATO не распалася. Таму толькі разам з Расеяй мы зможам выстаяць. Выразнай тэндэнцыяй сталі антыпольскія ды антызаходнія матывы ў прымітыўным выкладаньні салдацкім масам ваеннай дактрыны і, наадварот, пастаяннае даўбленьне пра Расею: безь яе прападзем, толькі зь ёй, больш нікому не аддамося. Зразумела, што салдатам збольшага "па барабану" гэтыя патужныя зампалітаўскія "загрузкі", але ж паціху дурманяць хлопцам галовы. У афіцыёзе МА ярка адсочваецца тая ж антыпольская і антызаходняя тэндэнцыя з прэтэнзіямі на канцэптуальныя абгрунтаваньні і — паралельна — ідалапаклонства перад Расеяй.

Але гэта афіцыйная прапаганда. Сярод саміх вайскоўцаў тэрміновае службы тэма магчымай вайны і якогась праціўніка непапулярная, такія праблемы іх мала турбуюць. У асяродзьдзі афіцэраў, асабліва маладых, стаўленьне да той жа Польшчы і NATO неадназначнае і можа вагацца да крайнасьцяў. Усеагульная агітацыя і арыентацыя дзяржаўнага кіраўніцтва на ўсход уплываюць на пазыцыі, але пры ўсім тым ёсьць нямала афіцэраў, прыхільных да дзяржаўнага сувэрэнітэту і нэўтралітэту Беларусі.

Падчас нефармальных размоваў маладыя афіцэры згадваюць прэзыдэнта Лукашэнку з сарказмам, жартамі, часам нават варожа.

Тлумачальныя заняткі пра "гістарычную дамову паміж РБ і РФ аб "Содружестве" ўжо праз тыдзень пачаліся з усімі вайскоўцамі. Тлумачыцца, што "брацкія славянскія народы" лепш справяцца з усімі праблемамі пры "глыбокай інтэграцыі", робіцца націск на тое, што аніводзін беларускі вайсковец ня будзе ўдзельнічаць у войнах па-за тэрыторыяй Беларусі, і адкрыта кажацца (як 9.04.96 г. заявіў у клюбе таварыш падпалкоўнік), што ў РФ няма рэсурсаў ствараць вайсковую акругу ў раёне Смаленску-Вязьмы, а выгадней мець добра падрыхтаваную, паслухмяную Беларускую акругу, як стратэгічнае перадпольле для абароны Масквы і Цэнтральнай Расеі. Даслоўнае цытаваньне таварыша падпалкоўніка: "Таким образом, мы вернулись к ситуации 41-го года".

Аўген Касьцюшка

## У Менску галадуюць інтэрнаваныя дзеячы апазыцыі

# ВЯЗЕНЬ РЭЖЫМУ

***Калі рыхтуецца гэты нумар "Нашай Нівы", прафэсар Юры Хадыка 15-я суткі за кратамі працягвае галадаваньне. Тамсама, у сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага ў Менску, галадуе сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык.***

Сп. Хадыка быў арыштаваны раніцай 27 сакавіка каля свайго дому. Яго запіхнулі ў машыну, якая, як высьветлілася пазьней, мае незарэгістраваны ў ДАІ нумар. Паводле беларускіх законаў, да затрыманага праз суткі павінен быць дапушчаны адвакат. Але турэмныя ўлады напачатку адваката не дапусьцілі. Дзеля абароны сваіх правоў сп. Хадыка вымушаны быў абвесьціць галадоўку.

Пасьля таго, як адвакат Н.Дударава была дапушчаная і сп. Хадыку было прад'яўленае афіцыйнае абвінавачаньне, ён працягнуў галадоўку з прычыны яго далейшага зьняволеньня. Няма ніякай патрэбы трымаць немаладога ўжо чалавека, які не зьяўляецца носьбітам крымінальнае сьвядомасьці, у турме. Судовы працэс можа адбыцца найхутчэй у пачатку жніўня — два месяцы сьледзтва плюс чарга даўжынёю ў месяц у Менскі гарадзкі суд. Затрыманьне на ўвесь гэты час прафэсара Хадыкі за кратамі можна растлумачыць толькі помстай уладаў іх палітычнаму апанэнту.

Сваякі Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка, якія выйшлі да сьледчага ізалятару з патрабаваньнем свабоды для сваіх родных, былі затрыманыя, ім зроблена папярэджаньне. Людзі, якія іх затрымвалі і выносілі ім прысуды, мала таго, што перанесьлі сябе ў іншую маральную рэальнасьць, дык яны яшчэ й парушылі законы Беларусі, паводле якіх на правядзеньне пікету не патрабуецца дазволу. Дагодлівая беларуская Фэміда і тут уступіла ў канфлікт з законам. Старшыня Менскага гарадзкога суда М.Ардзяка распаўсюдзіў па раённых судах дакумэнт бяз назвы, дзе сьцьвердзіў, што "ў адпаведнасьці з практыкай, якая склалася ў Рэспубліцы Беларусі" пікеты прыроўніваюцца да мітынгаў і дэманстрацый, а значыць, на іх таксама патрэбны дазвол уладаў.

Прафэсару Хадыку інкрымінуецца арганізацыя масавых хваляваньняў. Мы памятаем, што ўлады прыклалі максымум намаганьняў, каб справакаваць сутыкненьні дэманстрантаў зь міліцыяй. Застаецца пытаньне: чаму рэжым вырашыў зрабіць галоўнымі ахвярамі менавіта Ю.Хадыку й В.Сіўчыка? Ю.Хадыка быў адным з трох (разам з Г.Карпенкам і Г.Грушавым) сустаршыняў Нацыянальнага Арганізацыйнага Камітэту ўшанаваньня 10-х угодкаў з дня чарнобыльскай катастрофы, ягоны подпіс быў адным з трох пад заяўкаю на правядзеньне Чарнобыльскага Шляху 26 красавіка. Генадзь Карпенка — віцэ-сьпікер, а Генадзь Грушавы не рэпрэзэнтуе БНФ. Вось чаму галоўнаю ахвяраю, пасьля зьнікненьня З.Пазьняка, рэжым абраў Юрыя Хадыку. Мэта — разгром БНФ.



Але ўлады памыліліся з пэрсаналіямі. У іхнія разьлікі не ўваходзіла воля Ю.Хадыкі і В.Сіўчыка да супраціву беззаконьню. Акрамя таго, у разьлік ня бралася грамадзкая думка на Захадзе. Інфармацыя пра падзеі ў Беларусі пашыраецца ўжо ня толькі сярод міжнародных праваабарончых арганізацыяў. 8 траўня пад націскам фракцыі рэспубліканцаў Дзяржаўны Дэпартамэнт ЗША зрабіў заяву, дзе, у тым ліку, выказана занепакоенасьць фактам і ўмовамі затрыманьня Юрыя Хадыкі.

Ёсьць яшчэ адзін аспэкт у гісторыі з рэпрэсіямі супраць Ю.Хадыкі, на які асобную ўвагу зьвяртае наша газэта. Прафэсар Юры Хадыка — найперш, навуковец, а толькі потым палітык. Ягоны ўнёсак у гісторыю беларускай культуры патрабуе асобнага асэнсаваньня. Зь ягоных навуковых працаў у фізыцы расскрэчаная толькі адна. Рэч у тым, што, паводле зробленай для суда характарыстыкі ад імя Інстытуту фізыкі Акадэміі Навук Беларусі, "пачынаючы з 1966 г. і да 1991 г. галоўныя намаганьні Ю.В.Хадыкі былі скіраваныя на распрацоўку фізыка-матэматычных мадэляў струменяў прадуктаў спаленьня энэргетычных установак рознага тыпу — ракетаў, самалётаў, караблёў". З 1975 г. група, якой кіраваў Ю.Хадыка, стала вядучай арганізацыяй былога СССР у праблемах аптычных характарыстык агнявых струмянёў ракетаў. Да 1990 г. прафэсар Хадыка ўзначальваў сэкцыю ў саюзнай камісіі па распрацоўцы прагнозу разьвіцьця оптыка-электронных сыстэмаў узбраеньня. Такім чынам, мы маем справу са зьявай, што вызначалася ў былым СССР як "фэномэн Сахарава". Чалавек, які большую частку свайго навуковага жыцьця адпрацаваў на ваенна-прамысловы комплекс "Імпэрыі зла", робіцца апазыцыйным да рэжыму й ягоных ідэалягічных пастулятаў. На такі крок здольны навуковец толькі пэўнага ўзроўню кваліфікацыі і ўнутраных перакананьняў. Тут, дарэчы, знаходзяцца і вытокі цікавасьці Ю.Хадыкі да гісторыі культуры Беларусі. Гэта была ягоная гуманітарная самарэалізацыя.

У красавіку 1996 г. у Беларусі зьявіліся першыя палітычныя вязьні. Рыхтуючы гэтую інфармацыйную падборку пра Юрыя Хадыку, рэдакцыя "НН" заяўляе пра сваю салідарнасьць з усімі палітычнымі вязьнямі рэжыму.

Алег Дзярновіч

# З гісторыі беларускага мастацтвазнаўства

Гадоў дзесяць таму, у будынку Палаца культуры чыгуначнікаў Юры Хадыка чытаў лекцыю пра беларускі іканапіс. Тады такая падзея ўспрымалася моладзьдзю як акцыя рэзыстэнцыі. Аповед пра сакральнае мастацтва нашых продкаў, пахаванае па музэйных запасьніках альбо па аддаленых бажніцах, расплюшчваў вочы на велізарны абсяг нацыянальнае спадчыны, дагэтуль амаль невядомай. Насуперак неасьвечанасьці й хамству рэжыму.

Перад пачаткам лекцыі Юры Хадыка заўважыў тады жартам, што ён у гісторыі мастацтва толькі аматар (як, дарэчы, называюць яго некаторыя "спэцыялісты"). Але, працягваў ён, аматар — гэта на лаціне — той, хто любіць. А безь любові плённа ня можна займацца нічым.

Ужо сёньня Юры Хадыка — адна з найбуйнейшых асобаў у нацыянальным мастацтвазнаўстве. Яму належыць першая сыстэматызацыя беларускіх фрэскавых комплексаў XVIII ст. Яшчэ ў 1984 годзе зьявіўся першы ягоны досьледны артыкул, прысьвечаны фрэскам у касьцёле Сьв. Станіслава ў Магілёве (Хадыка Ю., Церашчатава В. Росьпісы касьцёла Станіслава ў Магілёве // Помнікі старажытнабеларускай культуры. Новыя адкрыцьці. — Менск, 1984. С. 23-30). У гэтым артыкуле была зьвернутая ўвага на тое, што ў Беларусі сьценапісы XVIII ст. ствараюць найбольшую, але найменш дасьледаваную групу помнікаў. Падрабязны аналіз магілёўскіх росьпісаў у Станіслаўскім касьцёле, іх атрыбуцыя й гісторыя стварэньня, сталіся для многіх сапраўдным адкрыцьцём, бо доступ да іх быў абмежаваны.

Далейшыя публікацыі з гісторыі манумэнтальнага жывапісу (Хадыка Ю. Сыстэма росьпісаў Нясьвіскага касьцёла // Помнікі культуры. Новыя адкрыцьці. — Менск, 1985. С. 31-39; Терещатова О., Ходыко Ю. Ранние фресковые росписи на территории Белоруссии (XI-XII вв.) // Славянские культуры и мировой культурный процесс. Материалы международной научной конференции UNESCO. — Менск, 1985. С. 130-134) паспрыялі ня толькі больш дакладнай сыстэматызацыі гісторыі гэтае галіны нашай культуры, але й істотнай перацэнцы сьценапісаў канца XVII-XVIII ст. як зьявы ня менш каштоўнай за ранейшыя помнікі і шмат у чым абсалютна арыгінальнай.

Юры Хадыка ўжо даўно вядомы і як дасьледнік станкавага жывапісу. Ён браў чынны ўдзел у фармаваньні фондаў Музэя Старажытнабеларускай Культуры, іх сыстэматызацыі й атрыбуцыі. У першым музэйным каталёзе Юры Хадыка склаў разьдзел, прысьвечаны іканапісу (Церашчатава В., Хадыка Ю., Ёркіна А. Музэй старажытнабеларускай культуры. Каталёг экспазыцыі. — Менск, 1983).

Прафэсар Хадыка першы ў Беларусі прымяніў матэматычныя мэтады для дасьледаваньня помнікаў мастацтва. Пры дапамозе статыстычнага аналізу ён сур'ёзна карэктаваў датаваньне многіх помнікаў, у прыватнасьці, дасьледуючы абразы канца XVI — пачатку XVII ст., давёў, што некаторыя зь іх значна старэйшыя, напрыклад, "Усьпеньне Маці Боскай" з-пад Берасьця, "Дабравесьце" з-пад Баранавічаў ды інш.

Сутнасьць мэтодыкі, што была ўжытая Хадыкам — гэта вызначэньне кантрольных атрыбутаў абраза і асобных дэталяў у максымальна большым коле аб'ектаў і групаваньне іх паводле частотнасьці супадзеньняў. Пры наяўнасьці дакладнага датаваньня некалькіх помнікаў астатнія далучаюцца да іх на падставе статыстычнага супадзеньня жорстка вызначаных прыкметаў. Тут пад увагу бярэцца тое, што іканапіс не мае вельмі трывалую іканаграфічную й кананічную традыцыі, а таму зьяўленьне тых ці іншых дэталяў не магло быць выпадковым і яно моцна прывязанае да пэўнага часу і рэгіёну.

Вынікі гэтых досьледаў (Хадыка Ю. Аб датаваньні групы помнікаў канца XVI — пачатку XVII ст. // Помнікі старажытнабеларускай культуры. Новыя адкрыцьці. — Менск, 1984. С. 30-37; Хадыка Ю. Разьба на фонах абразоў як датуючая прыкмета // Помнікі культуры. Новыя адкрыцьці. — Менск, С.44-50; Быцева І., Хадыка Ю. Група абразоў другой другой паловы XVII ст. з Брэста // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. — Менск, 1989. С. 62-71) паклалі пачатак новаму ўзроўню навуковых дыскусіяў у беларускім мастацтвазнаўстве. У прыватнасьці, апанэнты Хадыкі карысталіся раней пераважна суб'ектыўным мэтадам паралельнага аналізу на падставе стылістычных прыкметаў. Наагул, раней дыскусіі паміж жывымі ў друку не вяліся. Гэта лічылася неадпаведным тонам на фоне савецкае навукі. Прынята было, каб адзін пісаў, другі "абапіраўся".

Апроч больш дакладнага спосабу датаваньня Юры Хадыка прапанаваў і шэраг тэрміналягічных удакладненьняў, напрыклад, замест тэрміну "рэнэсанс на Беларусі" ён упершыню ўвёў у навуковы ўжытак тэрмін "беларускі рэнэсанс", падкрэсьліўшы такім чынам суб'ектнасьць беларускае культуры, здатнай выпраменьваць самастойна арыгінальныя мастацкія вобразы (Хадыка Ю. Аб датаваньні групы помнікаў..., гл. вышэй; Хадыка А., Хадыка Ю. Рэнэсанс у новым беларускім іконапісе // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэньня. — Менск, 1994. С. 62-71). Вялікую ўвагу ў сваіх дасьледаваньнях прафэсар Хадыка зьвяртаў і на сьвецкае мастацтва, асабліва на партрэт як найбольш арыгінальны жанр беларускага старога мастацтва. Кніга "Непаўторныя рысы. З гісторыі беларускага партрэта" (разам з А.Хадыкам) сталася адзіным навукова-папулярным выданьнем на гэтую тэму ў Беларусі. Прызнаньнем вялікага аўтарытэту Юрыя Хадыкі як гісторыка мастацтва стала ўлучэньне яго ў аўтарскі калектыў шасьцітомнае "Гісторыі беларускага мастацтва" (Хадыка Ю. Мастацтва другой паловы XVII — пачатку XVIII ст. (станкавы жывапіс) // Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Менск, 1988. Т.2 С.135-162).

Сяргей Харэўскі

*Севярын Квяткоўскі*

## САПРАЎДНЫЯ КЕПСКІЯ



Нядаўна, выходзячы з сваёй пяціпавярхоўкі, я схамянуўся ад воклічу "Слава нацыі!", на які адразу ж пачуўся водгук: "Сьмерць ворагам!". У маім двары васьмі-дзесяцігадовыя дзеці гулялі ў сутыкненьні паміж дэманстрантамі й амонам.

Хлапчукі парабілі сабе з фанэры шчыты, пабралі дубцы, а адзін нават узьдзеў сабе на галаву хакейны шалом. Супрацьлеглы бок кідаўся грудкамі зямлі й дзіцячымі абразамі. Гульня скончылася досыць хутка, бо прыблізна аднолькавыя ў колькасьці "бакі" не стрымалі сваіх шэрагаў і рассыпаліся па ўсім двары.

Малыя гуляюцца ў разгон дэманстрацыі. Гэта значыць, што іхнія бацькі глядзяць навіны беларускае тэлевізіі. Гэта значыць, што беларусы пачалі думаць пра сваю краіну, пра сябе. Яны параўноўваюць інфармацыю пра падзеі ў Беларусі зь ейнай інтэрпрэтацыяй у замежных СМІ, і робяць высновы. Тымчасам іхныя дзеці імітуюць грукат дубінак па плястыкавых шчытах і баявыя воклічы дэманстрантаў...

Нашыя дзеці маюць вялікую пэрспэктыву для ўдасканаленьня правілаў сваёй новай гульні. Зрэшты, можна прадбачыць рысу, да якой будзе разьвівацца гэтая гульня – яна вернецца да трывіяльнай "вайнушкі", у якую гуляюцца хлапчукі ці не ад узьнікненьня homo sapiens. Іншая рэч, як будуць сябе называць "варожыя" бакі. "Белыя" й "чырвоныя", "рускія" й "немцы" паступова адыходзяць у нябыт. Безумоўна, застануцца "паліцыянты" й "злодзеі", і...

У кожнай гульні ў "вайнушку" заўжды знаходзяцца адзін-два "байцы", якія ні пры якой умове не жадаюць быць "кепскімі", і наадварот, заўсёды ёсьць аматары "варожага" боку. Пакуль наўрад ці перад сёньняшнімі малагадовымі "дэманстрантамі" й "амонаўцамі" паўстае такая праблема. Перад большасьцю, але не перад усімі.

Калі дваццаць шостага красавіка шыхт шчытастых-шлямастых міліцыянтаў зьбягаў з горкі перад Катэдральным саборам на вуліцу Нямігу, побач са мною спыніўся нейкі спадар зь пяцігадовым хлопчыкам на плячах. Яны глядзелі як амон распачынае бойку з дэманстрантамі, і раптам малы спытаўся: "Тата, тата, а гэта рускія?" – "?" – "Ну, тата, гэта рускія, ці не?" – "Гэта калхозьнікі, сынок." – "А яны рускія?" –"Яны кепскія, сынок." – "Што, САПРАЎДНЫЯ?!!"

Сёньняшні рэжым у Беларусі мае адну вартасьць, якая дае падставы спадзявацца на ягонае хуткае самазьнішчэньне. У адрозьненьне ад былога савецкага, ён не імкнецца камуфляваць свае захады. Беларускія дзеці ўбачылі "сапраўдных кепскіх". З кіно і тэлевізіі яны ведаюць, што трэба рабіць з "кепскімі".

*Ганна Матусэвіч*

## КОЙДАНАЎСКІ ДЫЯРЫЮШ



28.04. У вёсцы й плачуць, і злуюцца, падазраючы мяне ў чытаньні "шайтанскіх кніжак". А яшчэ кажуць, што пад Негарэлым ужо дзесьці зь зімы сьвеціць нейкая новая зорка. Яркая! У вёсцы бліжэй да зорак, чым у горадзе.

... Недагледзела, падпаліла каўрыжку, узяўшыся за сто работаў адразу. Віталік аднак асмакаваўся і, каб падбадзёрыць мяне, ненаўмысна выставіў дулю, замест вялікага пальца рукі. Мы рагаталі да ўпаду. А зануда ў гэтым становішчы, пэўна, справакаваў бы бойку.

... Віталік напісаў невялікі апо-вед пад назваю "Зорка Беларусі". Панясе яго ў рэдакцыю "раёнкі". А сёньня ўвечары я таксама ўбачыла гэтую зорку. На небе было хмарна й пуста. І толькі адна зорка, бы маяк, зьзяла над нашым домам.

29.04. Я спакойная, мне хочацца заняцца сабой. І я са страхам пытаюся ў сябе: ці не злачынства гэта? А хіба быць прыгожай – гэта злачынства?

30.04. "... Мировые события часто происходят не самими действиями, а под знаками приближения действий. Люди творят многое под знаком радости, когда радости ещё нет, либо под знаком ужаса или войны, когда ничего ещё не произошло... Зачем сама война со всеми бедствиями, если один мираж может напрячь энергию! Многое строится совершенно реально, лишь гонимое миражом... Если удаётся произвести движение лишь под знаком, это большая удача. Самые большие перестройки происходят незаметно – лишь следствие показывает, сколько произошло..."

Мозаика Агни Йоги.

1.05. Цэлы дзень абрабляла трускаўкі. Калі а палове дванаццатай дабралася да пасьцелі й заплюшчыла вочы, убачыла на блакітным фоне белыя кветкі невымоўнай красы. Красачкі зьзялі. Прысьніўся Ян Пятроўскі. Ён пытаўся ў мяне, ці паеду я ў Амэрыку. Я адказвала, што ня ведаю...

5.05. Зьявіліся ўжо салаўі, зацьвілі сьлівы, у гнёздах сядзяць буслы – нішто не ўзварухне маёй душы. Пэўна й такі стан трэба перажыць і за ўсё быць удзячнай Богу.

6.06. Мне зусім не падабаецца цяперашняя "НН". Трэба аднак адзначыць, што людзям цяперашняя падабаецца болей. Людзі яшчэ не дарасьлі. Але прачынаюцца. Друкаванае слова страх як узьдзейнічае на людзей! І муж за Біблію ўзяўся, і Баргашэвіч мне пахваліўся сёньня, што размножыў на ксэраксе "Магутны Божа". І пракурор, глядзіце, вось-вось разматае "інтэрнацкую справу"...

*Зьміцер Бартосік*

## ВЫХАД У ГОРАД



У офісе "Незалежнага" тэатру завялі стары грамафон. На дагледжаны, груваскі агрэгат ставілі цьвёрдыя кружэлкі, якія даставаліся са спэцыяльнага, у выглядзе гармоніка, футаралу. З бліскучай трубы несьліся мілыя мэлёдыі шчасьліва абмінулага нас, але ўсё адно страшнага нам часу. "Утомлённое солнце", "Счастье моё", "Скажите, почему" – пад "оркестр НКВД", як пазначана на кружэлках. Хто б ні ўваходзіў або забягаў у офіс – усе замяралі й расплываліся ва ўсьмешцы. Быццам ім было што ўзгадаць пад тыя гукі. Нібы ў іх столькі пера-жыта з тымі песьнямі. Я таксама ўсьміхаўся, напускаў на вочы павалоку задуменнасьці, і нават запаліў папяросу, паклаўшы партабак побач з грамафонам. У чым справа? Што прымусіла нас адключыцца? Адкуль "нахлынули воспоминания"? Сумна ўсьведамляць, але гукі нашага часу зь мініятурных CD, упэўнены, праз паўсотні гадоў затрымаюць мала каго. Таму што жывыя гукі часу пішуцца ня нотнымі знакамі. Вось калі б падыграў НКВД!..

Славамір Адамовіч, паэт і журналіст, – за кратамі рэжыму. Прыгожа, чорт пабірай! Нават спачуваць няёмка. Хутчэй – пазайздросьціш. Не гэбісцкаму ізалятару, вядома (хоць гэта й ня брагінскі КПЗ). Сваім новым, дай Бог, нядоўгім, месцазнаходжаньнем Адамовіч узьняў кошт слова. Але галоўнае ня ў гэтым. А ў тым, што я, адвечны тормаз, будучы ў Менску, не знайшоў часу, каб зрабіць перадачу. Пачак цыгарэтаў – рэч нашмат больш неабходная цяпер, чым усе словы спачуваньня.

Ніяк не пазбаўлюся дурной звычкі – хадзіць на гомельскі футбол. Натуральна, адказаць, навошта я ўжо 15 гадоў ахвярую дзьвюма гадзінамі жыцьця, ня здолею. Як гулялі яны тады ў другой лізе, так і працягваюць гуляць у ёй цяпер (чэмпіянаты толькі іншыя). Бляклыя перамогі (што радзей) зьмяняюцца бліскучымі паразамі (што значна часьцей). Нават піва "Жыгулёўскае" ў стадыённым буфэце ўсё той жа сьвежасьці, што й тады (а, можа, гэта яно й ёсьць).

Адно, што заўважаецца, – тэхнічны рэгрэс. Зьнесена электрычнае табло й пабудавана драўляная шпакоўня зь дзірачкамі для лічбачак і з надпісам: "ГОМЕЛЬ – ГОСТИ". Самае яркае ўражаньне пакінула гульня, калі ўлюбёная каманда ўпершыню за сэзон закаціла тры мячы ў браму гасьцей. Пэўна, ад вялікага хваляваньня падшыванец у "шпакоўні" ніяк ня мог усталяваць лічбу "3", якая выпадала вонкі, і небараку даводзілася некалькі разоў выбягаць па яе з будкі пад рогат прабуджаных аматараў гомельскага футболу. Уся ўвага стадыёну з гэтай хвілі мачу была прыкаваная да імправізаванага табло, на якім зьяўляліся й ападалі долу то "Е", то "W". Выратаваў становішча на табло чацьверты мяч гомельцаў, забіты нібы спэцыяльна дзеля драўлянай лічбы "4".

Іншым разам я сустракаю тут былых аднаклясьнікаў, ужо татаў ды мужоў. Я прашу іх падзяліцца семкамі, яны (які кайф!) просяць мяне ці то дапамагчы настроіць гітару, ці перапісаць акорды нейкай даўно забытай песьні. У іншым месцы гэтыя просьбы гучалі б неяк ня так чароўна. Тут – іншая рэч. Тут час над намі ня ўладны. Ды ўсё ж, шкодная гэта наша звычка. Застаючыся разам з камандай, мы таксама, разам зь ёю, ня хочам быць чэмпіёнамі. Але на наступнай гульні мы сустрэнемся зноў і пойдзем пад піва й семкі глядзець такі доўгі, доўгі мач...

На "Славянскіх тэатральных сустрэчах" (фэстывалі тэатраў трох брацкіх абласьцей) я нічога новага сустрэць не чакаў. Заўсёды замінае нейкая перадузятасьць да ўсяго абласнога й, тым больш, брацкага ў мастацтве. Аднак "Трышчан ды Іжота" прыблізілі надзею на жывы беларускі тэатар. Ці то мноствам маладых твараў на сцэне, ці то адсутнасьцю ў акцёраў усялякай школы, што кампэнсуецца свабодаю гуляць ад сябе, ці то недасканаласьцю п'есы Кавалёва, але ж "па матывах старабеларускага рыцарскага раману".

На спэктаклі "Рычард", прывезеным "Вольнай сцэнай", узьнікала ілюзія белтэатру-профі. Дзёрзкі пераклад А.Дударава, прафэсійная тэхніка акцёраў, "таганскае" афармленьне (ці ня з "Гамлета" зьнятая заслона?). Нават п'еса й сытуацыя ў краіне спрыяюць ілюзіі тэатральнага пратэсту. Але толькі ілюзіі, здымаць і адваёўваць Шэкспіра патрэбы ўжо няма.

За расейцаў можна не хвалявацца. Тэатар – іх дзялянка. Нават іхняй тэатральнай правінцыі, як Бранск, ня трэба праз задніцу нацягваць модныя, сталічныя адзеньні, каб адчуць сябе вартымі гледача. Можна без хрэстаматыйных комплексаў паставіць Астроўскага, набудаваць такіх дэкарацыяў, што й дарослым закарціць патрапіць на сцэну, і да ўсяго яшчэ дадаць сапраўднага нэрву, галоўнага казыра расейскага тэатру.

Роўна два гады таму маю ўвагу прыцягнулі сьцягі іншых дзяржаваў на фасадзе нашага ўнівэрсытэту. Іншай рэклямы першага студэнцкага фэсту "Арт-сэсія" я ня памятаю. Памятаю, як упершыню прарываюся на канцэрт фальклёрных калектываў. І прарваўся. Пра што не шкадую й сёньня. Бо датуль пабачыць жывых французаў ды шатлянцаў мне не выпадала. Жывых ня ў сэнсе "ня мёртвых".

Сёлета ў Гомелі, можа, упершыню замахнуліся на вялікае міжнароднае сьвята. Зь вялікаю, на восем дзён, праграмай: ад навуковых канфэрэнцыяў да рок-канцэртаў. Зь безьліччу выступаў на аж чатырох пляцоўках прафэсійных і ня вельмі калектываў з розных краінаў...

Колькі тут жыву, столькі й чакаю сьвята. А яно ўсё не прыходзіць. Быццам тут глеба нейкая не такая, не сьвяточная. Быццам не для сьвятаў створаны самы цёплы наш горад, з самым гожым паркам над самай чыстаю ракою. Не глядзяцца мне тут трансьляцыі "Славянскіх базараў" ды "Зорных ростаняў", ня слухаюцца. Можа таму мяне й не хапіла на ўсё. Хоць і настройваў сябе паўсюль пасьпець ды ўсё пабачыць.

Адкрыцьцё зрабілі сур'ёзнае. Агромністая і няўтульная заля былога Дому палітасьветы была запоўненая збольшага ўдзельнікамі фэсту (а іх болей за тысячу), меней – цікаўнымі гараджанамі (як я даведаўся пасьля, прадалі болей за дваццаць квіткоў).

Пад разнамоўную гамонку ў залі прамаўлялася шмат словаў. Часу было яўна недастаткова на тую чараду калектываў, што чакалі свайго выхаду. Бабруйскія, мазырскія, сьветлагорскія, гомельскія музычныя ды харэаграфічныя калектывы. І ўсе пяюць і скачуць. І ўсе не за грошы. І ўсе для мяне! А сапраўды, куды падзецца дзецям ДК? І куды б падзеўся беларускі фальклёр, ня будзь тых мясцовых калектываў? Я ж праз паўтары гадзіны вырашыў падзецца ў буфэце. Ды раптам дужыя хлопцы выкацілі на сцэну раяль. Пасьля гэтага зьявіліся два сівыя джэнтэльмэны, у адным зь якіх я пазнаў рэктара ГДУ. Той, што ў чырвоным, аказаўся ягоным навуковым калегам з Італіі. Настроіўшыся на доўгую прамову аб брацкіх італа-беларускіх сувязях, публіка была прыемна зьдзіўленая, калі рэктар сеў за раяль. Далейболей – ён зайграў. А італіец, адпаведна, засьпяваў. Блытаючыся ў родных італьянскіх словах і зьбіваючыся з рытму. Дзякуючы маэстра рэктару я пазнаў нэапалітанскую "Санта Лючыю". Узятыя зь цяжкімі высілкамі акорды, былі заглушаныя сапраўднымі авацыямі, так даўно ня чутымі ў гэтых сьценах. Я зразумеў, што цікавейшага нумару мне ўжо не дачакацца, фэст распачаты й можна, нарэшце, адзначыць гэтую нагоду ў нейкай вясёлай студэнцкай кампаніі.

Але кампаніі я не знайшоў. Адкрытай кампаніі маладых інтэлігентаў, зь віном, гітараю ды студэнцкімі жартамі. Ці то я быў выматаны, ці шукаў ня там, але патусавацца на гэтым фэсьце мне не давялося. Адно – пасьпявай на канцэрты. На якія, дарэчы, патрапіць было праблематычна. Толькі, калі ў мяне галоўнаю праблемаю было – куды, то ў студэнтаў – як. Квіткі былі зусім ня танныя, што, на жаль, адбівалася на запаўняльнасьці заляў і ператварала фэст у закрытае мерапрыемства. Своечасова апамятаўшыся, аргкамітэт пачаў тыражаваць запрашэньні.

Нічога ня цямлю ў жаночай модзе, але тое, што было пабудавана ў зале ГДУ пад салён зьлёгку ўражвала й найстройвала на апляды-смэнты. На сцэне стварылі салён, з прадуманым падсьветам, зь бліскуча-белымі дэкарацыямі, з подыюмам, што ў аблямоўцы ліхтароў урэзваўся ў залю. Праграма паказу не саступала антуражу. Я баяўся, што дэманстрацыя мадэляў ператворыцца ў дэманстрацыю мадэлек. Але, як аказалася, дарма. Яркія гарнітуры, лёгкія пэньюары, дарагія паліто строга зьмяняліся на белым тле, не пакідаючы ценю правінцыяльнасьці. Белыя льняныя сукенкі ўнесьлі ў гэтую фэерыю колераў наскую ноту.

Перапынкі паміж паказамі былі аддадзеныя "Тэатру песьні Аляксандра Ціхановіча й Ядзьвігі Паплаўскай". Слухаючы сто разоў кручаныя ў белрадыё песенькі гэтых несастарных камсамольцаў, я так і не разумеў – чаму яны называюць сябе тэатрам. Ні рэпэртуар, ні час іхны вобраз не зьмяняюць. Усё тая ж "сестрёнка без братишки" і ўсё той жа маладзён зь лёгкім комплексам прыгажуна-мужчыны. Ён какетнічаў з заляй, нясьмешна жартаваў (я буду пець пра белыя ружы, а не пра белыя рожы). "Сестрёнка" ж удавала раўнівую жонку. Можа ў гэтым тэатар? Але тады лепш ужо мадэлкі з Масквы. Тыя хоць не імправізуюць.

Самай нечаканай была маса вольных месцаў пад час гала-канцэрту рокавых камандаў. Гадоў яшчэ пяць-шэсць таму маладняк ламіўся б праз міліцэйскія кардоны, набіваючы сабою гэтую зьездаўскую залю "Палітпроса". Праўда, тады не далі б ім гэтае пляцоўкі. Сёньня ж усё выглядала досыць жальліва, а іншым разам анэкдатычна. Два, трыццацігадовыя, паўголыя рокеры, усё яшчэ панкуючы, самотна шалелі перад тузінам маладзейшых за іх ахоўнікаў каля сцэны, на якой мяняліся гурты на любы густ, гук і колер. Мне даспадобы прышоўся "Narrators". Можа таму, што болей увагі аддаюць уласна музыцы. Ва ўсіх кампазыцыях адчуваецца роля й густ лідара гурта Аляксандра Цыганка. Пад час іх выступу я мог дазволіць сабе адключыцца ад залі й патануць у настальгіі па 70-х пад блюзавыя імправізацыі іхных гітараў. Далей рэй павялі шатлянцы. "The Dawntreaders" і "The Fabians" сваім мажорным рок-н-ролам прымусілі нешматлікіх гледачоў пакінуць наседжаныя месцы й стлуміцца перад сцэнаю. Было яшчэ шмат каго, ад ВИА да крышнаітаў. Ды ўсе чакалі "Рублёвае зоны". Я не дачакаўся. Можа й дарэмна. Ды ці мала чаго я не пасьпеў пабачыць.

Закрыцьцё праходзіла ва ўнівэрсытэцкай канцэртнай залі і ўключала ўсё, што магло ўключыць з папярэдняга тыдня, за выключэньнем року. З чарады мастацкіх фальклёрных калектываў вылучаліся расейскія "Белые ночи" з С.-Пецярбургу. Ня толькі складанасьцю скокавых "каленцаў" ды іншых "штук", але й сваёй нянаскасьцю. Ад яркіх строяў да агнявога тэмпэрамэнту. Яны маглі трымаць залю колькі заўгодна, зрываючы "бісы", у тым ліку й ад мяне. Але яны саступілі месца беларушчыне, прадстаўленай песенькай без мэлёдыі, прапетай хлопчыкам у белых нагавіцах ды чорных акулярах. У парыве патрыятызму я не ўстрымаўся, каб не запісаць хаця б словы аднаго куплету.

Больш Беларусь ня пойдзе ў хаўрус
Ні да Варшавы, ні да Масквы.
Больш нікому не дадзім раніць
Ні мову родную, ні кут радны.

Пасьля такой аптымістычнай ноты ня грэх спусьціць сьцяг фэстывалю.

№ 8/96
13-19 траўня

# ІНФАРМАТАР
НАША НІВА

Новае слова на рынку беларускае прэсы – штотыдзень 12 палосаў патрэбнае інфармацыі

ШТОТЫДНЕВЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ДАДАТАК ДА ГАЗЭТЫ НАША НІВА

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ BELARUSIAN PUBLIC RELATIONS ASSOCIATION





Платныя прыватныя аб'явы

Для сур'ёзных адносінаў пазнаёмлюся з прывабнай, добрай дзяўчынай — нацыянальна сьвядомай, пажадана студэнткай. Пра сябе: **24/173/60, зьнешнасьць прыемная, студэнт 4-га курса БДУ, характар спакойны.** Лісты дасылаць на адрас: 220024, Менск, а/с 57. Уладзімір.






## БІРЖА ПРАЦЫ

стар. 8

Структура выдаткаў ФСЗ на мерапрыемствы, датычныя рынку працы, зьмянілася: актыўная кампанэнта ўзрасла ў параўнаньні з 1994 г. з 29,7% да 45,4%, бо выдаткі на актыўныя захады ўзрасьлі ў большай ступені, чым на пасіўныя. Актывізацыя палітыкі занятасьці, якую праводзіць МГЦЗН на рынку працы гораду, выявілася ў павелічэньні выдаткаў на інфармацыйнае забесьпячэньне, стварэньне (захаваньне) працоўных месцаў, прафарыентацыю.

Доля пасіўнай кампанэнты зьнізілася да 54,6% збольшага за кошт скарачэньня долі выдаткаў на дапамогі па беспрацоўі.

Аналіз структуры выдаткаў на захады, датычныя рынка працы, дае падставы лічыць, што палітыка, якую праводзіў МГЦЗН на рынку працы ў 1995 г., была дастаткова актыўная.

Прагназаваны на 1996 г. рост беспрацоўя прывядзе да павелічэньня выдаткаў як на актыўную, так і на больш пасіўную кампанэнту, бо, з аднаго боку, пагаршэньне сытуацыі на рынку працы патрабуе правядзеньня больш актыўнай палітыкі, накіраванай на арганізацыю прафнавучаньня, грамадзкіх работаў, стварэньне (захаваньне) працоўных месцаў, дапамогі наймальнікам у падборы работнікаў, а зь іншага боку — павелічэньня выдаткаў на сацыяльную падтрымку беспрацоўных.

*У гэтым нумары мы скончаем публікаваць аналіз рынку працы, прэзэнтаваны Менскім гарадзкім цэнтрам занятасьці насельніцтва.*

## РАДЫЁ

**НОВЫ РАСКЛАД** РАДЫЁ 101,2

**Інфармацыйныя перадачы:**

7.00-8.00 – Ранішні інфармацыйна-музычны канал
08.05 – Навіны
08.30-8.40 – Дайджэст прэсы
8.45-8.50 – Бізнэс-агляд
9.00-9.05 – Навіны
9.45-9.50 – Выпуск курсу валютаў у банках г. Менску,
10.00-10.05 – Замежныя навіны
11.00-11.05 – Навіны
12.00-12.05 – Сусьветныя навіны Бі-Бі-Сі
13.00-13.05 – Беларускія і замежныя навіны
13.30-13.35 – Гарадзкі экспрэс
14.00-14.05 – Навіны Беларусі (БЕЛТА, БелаПАН)
15.00-15.05 – Навіны
16.00-16.05 – Замежныя навіны
16.15-16.45 – Ліцэнзійныя музычныя праграмы Бі-Бі-Сі
17.00-17.05 – Навіны
17.30-18.00 – Праграма Беларускае службы Польскага радыё
18.00-18.05 – Навіны
19.00-19.07 – Навіны Расейскай службы "Нямецкай хвалі"
20.00 – Заканчэньне працы

**Аўтарскія праграмы:**

10.30-11.00 – "Мамзэль", праграма для жанчынаў (нядзеля)
11.15-11.45 – "Бізнэс-актуаліі", аналітычная праграма (серада, пятніца)
11.15-12.00 – "NRJ", перадача пра францускую музыку (нядзеля)
12.15-12.45 – "Музыка тоўстых", джазавая праграма (аўторак)
12.30-12.50 – "Паехалі!", аўта-праграма (чацьвер, субота)
13.15-13.40 – "Ad okulus", навіны відэарынку (нядзеля)
14.30-15.00 – "T.V. Dance", танцавальная праграма (нядзеля)
15.15-15.50 – "Waka-Jawaka", музычная праграма (чацьвер)
15.30-15.45 – "ПраРок", музычная перадача (серада)
19.10-20.00 – "Незабыўнае", мэлёдыі мінулых гадоў (нядзеля)
19.25-19.55 – "Парад зорак", музычная праграма "Нямецкай хвалі" (субота)

## ГАСПАДАРКА

### Як мыць і чысьціць посуд?

Для мыцьця й чысткі посуду выкарыстоўваецца каля 100 відаў розных прэпаратаў і хімічных рэчываў, якія паводле свайго ўзьдзеяньня на паверхню падзяляюць на безабразіўныя і абразіўныя.

Пераважна для мыцьця посуду скарыстоўваюць безабразіўныя рэчывы, а што да абразіўных, то іх варта ўжываць толькі для чысткі моцна забруджанага посуду.

### Калі залівае кватэру

Адна з асноўных прычынаў, зь якой залліваюць кватэры, — невыкананьне жыльлёва-эксплюатацыйнымі арганізацыямі (ЖЭА) нормаў тэхнічнай эксплюатацыі жылога дому. У выніку ў доме трухлее дах, даходзяць да непрыдатнасьці інжынэрныя камунікацыі й ацяпляльныя трубы. Нашыя парады дапамогуць Вам вызначыць чарговасьць дзеяньняў у выпадку, калі Вашую кватэру заліла зь віны ЖЭА. Скарыстацца з гэтых парадаў змогуць уладальнікі ўсіх кватэраў, незалежна ад таго, у чыёй уласнасьці знаходзіцца дом — муніцыпальнай ці ведамаснай.

Усе дзеяньні ахвяры складаюцца з трох этапаў.

*Больш падрабязна пра ўсё гэта чытайце на старонцы* **10**

## ТЭЛЕСАТЭЛІТ




13.05 у 19.45 на канале **ARTE** камэдыя Нані Марэцці "АСАБІСТЫ ДЗЁНЬНІК"



18.05 ў 21.00 на канале **TV5** пачатак цыклю з 4-х сэрыяў "ВЯЛІКІ КУЛЬБІТ" (1989 г.). Падзеі фільму адбываюцца падчас Вялікай францускай рэвалюцыі паміж 1789 і 1800 гадамі. 4 эпізоды фільму распавядаюць пра шчасьлівае каханьне і вайну.



16.05 ў 21.00 і 19.05 ў 23.35 на канале **TV5** фільм францускага рэжысэра Луі Маля "ЗАЗІ Ў МЭТРО" (1960 г.). Гэта экранізацыя рамана вядомага францускага пісьменьніка XX стагодзьдзя Р.Кюно. Асноўная тэма фільму — сустрэча падлетка — маленькай дзяўчынкі Зазі — зь сьветам дарослых.

13.05 у 21.25 на канале **ARTE** фільм рэжысэраў Паолё і Віторыё Тавіяні *"ФІЁРЭЛЬ"* (Нямеччына /Італія / Францыя 1992 г.)





16.05 ў 21.55 на канале **ARTE** фільм рэжысэра Юзэфа Шахіна *"САЛАДЫН"* (Эгіпэт 1963 г.)

Працяг са старонкі 6

да сапраўднага Ільліча, помсьціці за самазванства. Але дакладна, што білі не за скрадзеную мумію.

**ЯШЧЭ АДЗІН ЛЕНІН.** У Маскве ў Парку Горкага адзначылі 84-я ўгодкі газэты "Праўда". На народных гуляньнях прысутнічаў сам заснавальнік газэты. Праўда, не сапраўдны, а двайнік. Але падобны, як дзьве кроплі вады. Сапраўднае яго імя Анатоль Каклянкоў. Узрост —50 гадоў. Прафэсія — Уладзімір Ільліч Ленін. Звычайна ён працуе на Краснай Плошчы, здымаючыся за грошы з турыстамі. А на сьвяце быў выключна з ідэйных меркаваньняў, бо падзяляе погляды свайго арыгіналу. На мітынгу, што адбыўся ў Парку Горкага, ён заклікаў галасаваць за камуністаў і сказаў: "Ці мы загінем у агні вайны, у бясконцых газбогках, ці зах...гім сусьветную гэвалюцыю, тавагішчы. Уга!"

**ЗАВОБЛАЧНЫ ПАЧЫН.** Мара "крамлёўскага летуценьніка" пра пераможнае шэсьце камуністычных суботнікаў узьляцела вышэй за аблокі ў самым непасрэдным сэнсе. Бо група нэпальскіх альпіністаў распачала 50-дзённую экспэдыцыю на Эвэрэст з мэтаю расчысьціць ягоную вяршыню ад сьмецьця. Як лічаць спэцыялісты, за гады незьлічоных узыходжаньняў блізу 600 альпіністаў там накапілася кінутага альпінісцкага рыштунку, пустых кіслародных балёнаў, кансэрвавых бляшанак ды іншай трасцы ажно 55 тонаў. Гэтым разам удзельнікі горнага "суботніку" плянуюць выдаліць паўтары тоны сьмецьця. А наступным годам зьбіраецца яшчэ большая экспэдыцыя для ўборкі "горнай тэрыторыі".

**ЦІ БЫЎ СТУДЭНТ?** Адным з скандалаў, зьвязаных зь перадвыбарчай барацьбой цяперашняга прэзыдэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага, была адсутнасьць у яго ўнівэрсытэцкага дыплёму, хоць ён і заяўляў пра сканчэньне ўнівэрсытэту ў Гданьску. Нядаўняя праверка ў гэтай навучальнай установе паказала, што ў Квасьнеўскага не было ня толькі дыплёму, але й залікоўкі ды выпісак з экзаменацыйных ведамасьцяў. Праверка выявіла таксама шматлікія падманы з дакумэнтамі ва ўсім унівэрсытэце. У выніку пракуратура распачала сьледзтва. У справе фігуруе звыш 30 адміністратыўных ды навуковых супрацоўнікаў.

**ГІШПАНІЯ.** У Гішпаніі скончыўся 13-гадовы пэрыяд кіраваньня краінай сацыял-дэмакратамі. На нядаўніх парлямэнцкіх выбарах перамагла правая Народная партыя. Прэм'ер-міністрам краіны стаў 43-гадовы Хасэ Марыя Аснар, які прынёс прысягу каралю Гішпаніі Хуану Карласу І ды сфармаваў новы кабінэт міністраў. Аснар зьбіраецца вярнуць баскам маёмасьць, што была сканфіскаваная ў іх пры рэжыме Франко, даць правінцыям большую аўтаномію ў галіне падаткаабкладаньня ды спрыяць большаму выкарыстаньню мясцовых дыялектаў.

**ЖЫВЫ ТРУП.** На падтрыманьне жыцьця зусім нямоглага Дэн Сяапіна кітайцы выдаткоўць болей за 1200 даляраў на дзень. Паводле паведамленьня ганконскай прэсы, кітайскі лідар пакутуе на хваробу Паркінсона. Пры ягоным ложку ўвесь час дзяжурыць каманда лекараў зь некалькіх дзясяткаў чалавек. Іх задача — любым коштам падтрымваць у правадыры жыцьцё. Дэн Сяапін ужо ня ў стане самастойна падымацца з ложка ды чытаць. Зрэшты, чытаць яму ўсё адно супрацьпаказана, асабліва газэты. У лік тэрапэўтычных сродкаў уваходзіць стварэньне добрага настрою і недапушчэньне адмоўных эмоцыяў. Як казаў Мао Цзэдун, "чым меней ведаеш, тым мацней сьпіш", і "чым болей чытаеш, тым болей дурнееш".

**"ГУМАННАЯ ЗБРОЯ".** У Жэнэве закончылася міжнародная канфэрэнцыя на тэму супрацьпяхотных мінаў. Пацярпелі няўдачу намаганьні шэрагу краінаў дамагчыся поўнай забароны ўжываньня такіх мінаў. Бо супраць выступілі вайскоўцы Расеі, Кітаю ды ЗША, якія лічаць такую зброю жыцьцёва неабходнай. Болей за 50 дзяржаваў-удзельніц канфэрэнцыі вырашылі пагадзіцца на кампраміс. Міны застаюцца, але зьмяняюцца іх тэхнічныя характарыстыкі, і для пераходу на новы, "больш гуманны" кшталт мінаў адводзіцца 9 гадоў. Паводле новых стандартаў, міны абавязкова павінны ўтрымваць мэталёвыя элемэнты. Таксама яны павінны мець здольнасьць да самалквідацыі праз 30 сутак пасьля ўстаноўкі. Праўда, падпісаны дакумэнт не прадугледжвае ніякага кантролю за выкананьнем гэтага пагадненьня.



## Адукацыя

### ЭЎРОПА БУДЗЕ БАЙКАТАВАЦЬ УНІВЭРСЫТЭТЫ, У ЯКІХ ПЕРАСЬЛЕДУЮЦЬ СТУДЭНТАЎ

Як паведаміла ў тэлефоннай размове Крыстын Тытгат, кіраўніца праграмы "Тэмпус" брусэльскай Эрасмусхохескул, яна мае інфармацыю, што адукацыйныя ўстановы Эўрапейскага Зьвязу, верагодна, прымуць рашэньне ўвесьці байкот тых вышэйшых навучальных установаў Беларусі, што ўжывуць рэпрэсіўныя захады супраць студэнтаў, якія выкарысталі правы чалавека на свабоднае выказваньне думкі і свабоды сходу. У першую чаргу пад байкот падпадуць фінансавая дапамога і праграмы для выкладчыкаў. Адначасова студэнцкія асацыяцыі Бэльгіі гатовыя аказаць дапамогу пацярпелым студэнтам. "Унівэрсытэцкая салідарнасьць выкладчыкаў і студэнтаў у падтрымцы свабоды —гэта заходнеэўрапейская традыцыя", — паведаміла Крыстын Тытгат.

*Андрэй Дынько*

## Мова

### ХТО БОЛЕЙ?

Сёньня ў сьвеце зарэгістравана звыш 6000 розных моваў (без гаворак). Прытым ёсьць некалькі краінаў, якія шматкроць меншыя за колішні СССР, аднак моваў там ужываецца значна болей. Да такіх краінаў належаць: Папуа-Новая Гвінэя — 850 моваў, Інданэзія — 670, Нігерыя — 410, Індыя —380, Камэрун — 270 ды іншыя. Заўважым, ва ўсіх гэтых краінах, за выключэньнем Папуа-Новае Гвінэі, адбываюцца мілітарныя міжэтнічныя канфлікты.

Найбольш пашыранаю ў сьвеце застаецца кітайская мова, на ёй гаворыць 20,9 працэнта жыхароў нашае плянэты. За ёю ідзе ангельская (11,5), хіндзі (8), гішпанская (6), расейская (5,5), арабская (4), партугальская (3), француская (2,3).

## ФОТАЗАГАДКА




Вы мусіце назваць тое, што выяўлена на гэтым здымку. Той, хто слушна адкажа на пяць загадак запар і дашле свой адказ, атрымае каштоўны прэзэнт. Чакаем вашых допісаў!

## Лад

### ПРАСЬЦЕЙ, ЯШЧЭ ПРАСЬЦЕЙ

У ЗША, пачынаючы з канца 80-х, тэндэнцыі да спрашчэньня выявіліся ва ўсіх сфэрах жыцьця. Сёньня амэрыканцы часьцей рамантуюць старыя дамы, а не купляюць ці будуюць новыя. З усіх відаў спорту абсалютная большасьць аддае перавагу хадзе, якая не патрабуе адмысловага экіпіраваньня, апроч абутку.

Грамадзкая цяга да добраахвотнага спрашчэньня побыту — рэч старадаўняя. Да таго клікалі і Буда, і Хрыстос, і пурытане, і талстоўцы. Што прынцыпова новае ў гэтым фэномэне ў ЗША, дык гэта адсутнасьць разыходжаньняў у адносінах да яго з боку ўсіх узростаў, нацыянальнасьцяў, веравызнаньняў, станаў.

Праўда, ёсьць некаторыя адрозьненьні ў геаграфіі: "спрашчэнцаў" больш на ціхаакіянскім узьбярэжжы, чым на атлянтычным. Ёсьць і ваганьні ва ўзросьце: у гэтым руху болей людзей да сарака, чым старэйшага пакаленьня. Сацыёлягі сьцьвярджаюць, што пад канец стагодзьдзя 15% з 77 мільёнаў маладых амэрыканцаў стануць перакананымі "прастакамі" і будуць прынцыпова спажываць толькі простыя ды танныя тавары.

Рашэньне менш зарабляць і менш траціць, аднак атрымаць больш вольнага часу й душэўнай раўнавагі патрабуе ад амэрыканца шмат: ён мусіць мець адвагу на таемны бунт супраць культу грошай, іх заробку й марнаваньня. Колькасьць такіх бунтаў у ЗША за апошнія гады вырасла настолькі, што сацыёлягі загаварылі пра "рух добраахвотнае прастаты", які некаторыя лічаць галоўным грамадзкім фэномэнам 90-х гадоў. У 1995 годзе, напрыклад, 28% амэрыканцаў даводзяць, што яны дабраахвотна сталі зарабляць меней, бо ў іх зьмясьціліся жыцьцёвыя прыярытэты. Прытым 82% апытаных амэрыканцаў усьведамляюць, што спажываюць нашмат болей за патрэбнае. У моду нянкі прыйшла філязофія Талстога й Хэмінгуэя.

## Каляндар

# ПАЎСТАГОДЗЬДЗЯ БЕЗЬ ПЕРАМОГІ

Шмат у якіх краінах 8-9 траўня памінаюцца ахвяры апошняй сусьветнай вайны. У нашым пост-савецкім грамадзтве назіраюцца два стаўленьні да гэтай даты. Першае — натуральнае: людзі мусяць шанаваць памяць сваіх герояў, людзі не павінны забывацца пра злачынствы, каб яны не паўтараліся. Але другое...

Большасьць сёньняшніх дарослых беларусаў, якія нарадзіліся пасьля вайны, выраслі на ідэале ваеннай перамогі. Гэты ідэал абумоўлены сутнасьцю калектывісцкай ідэалёгіі: савецкі народ ёсьць племя на чале з правадыром. Племя — маса, дужая сваёю вагой, толькі нейкая барацьба можа аб'яднаць яго, і зрабіць неабходнай уладу правадыра. На сёньняшні дзень усе пераможныя дасягненьні савецкага племені, накшталт Цаліны, БАМу й асушэньня палескіх балотаў, разьвянчаныя. Дый не маглі яны быць сапраўднымі сымбалямі перамогі — толькі кроў можа мацаваць племя. Гэта разумеюць і ў Расеі, да якой так прагнуць далучыцца нашая савецкія беларусы.

Племя розьніцца ад нацыі адсутнасьцю індывідуальнай адказнасьці чальцоў супольства. У цяперашняй Нямеччыне дагэтуль сароміцца згадваць пра злачынствы сваіх суайчыньнікаў падчас Другой сусьветнай. Існуе такое паняцьце — сорам нацыі. Не дзіўна, што ў Нямеччыне аніводная газэта не наважылася перадрукаваць Лукашэнкаву хвальбу ў бок Гітлера. Там гэта было б блюзьнерства. Паняцьці сораму й пакаяньня ня могуць існаваць у племяннай сьвядомасьці. Калі гаворыцца пра нешта ганебнае ў гісторыі свайго народу, савецкі чалавек кажа — "а я тут не пры чым", калі пра нешта слаўнае —"добра мы ім тады далі" (напрыклад, пра Кулікоўскую бітву).

Паўстагодзьдзя без перамогі надта доўгі тэрмін для любога племені, нават для такога вялікага, як савецкае.

Сёньня балюча назіраць гаротны стан нашых вэтэранаў Другой сусьветнай. Хтосьці зь іх змагаўся за ідэалы Леніна-Сталіна, хтосьці проста бараніў сваю зямлю, але й тыя, і тыя атрымалі права на падтрымку з боку соцыюму. У нацыі такая падтрымка залежыць ад грамадзтва, у племені — ад правадыра. Тая перамога робіцца ўсё менш актуальнай для сёньняшняга правадыра савецкіх беларусаў. Праблема ў тым, што шмат хто з чальцоў племені гадаваўся на ідэале вайны, але ўласнай не перажыў. Таму цяпер іхны павадыр імкнецца да сьвежай крыві.

Плямёны зьнішчалі нацыі, але й нацыі паўставалі з плямёнаў —гэта супадае ў найноўшай беларускай сытуацыі. У гэтым яе парадокс.

Любая форма фашызму базуецца на племяннай сьвядомасьці. 9 траўня я адзначаў перамогу над адной зь іх. На Дзяды я памяну душы бязьвінна забітых. Дай Божа, каб гэта адбылося не ў акопе.

Севярын Квяткоўскі

Наша Ніва 13 траўня 1996 №9(47)

*Мілета Праданавіч*

# МАСТЫ І НЯНАВІСЬЦЬ

Разбурэньне славутага моста ў Мостары — гэта як бы мэтафарычны канец вайны ў Босьніі. Вядома ж, гэта зусім ня быў КАНЕЦ вайны, на канец вайны наўрад ці падобныя й тыя пагадненьні, што падпісваюцца апошнімі часамі ў сусьветных сталіцах — яшчэ шмат людзей з усіх бакоў было забіта, паранена або выгнана з дому пасьля таго, як вапняковыя блёкі Хайрудынавага моста, узьведзенага ў 1566 годзе, упалі ў Нярэтву. Але ва ўсялякім выпадку, гэта было прабіцьцё яшчэ аднаго пласта злачынстваў, пра які ніколі раней нельга было і ўявіць сабе, што ён увогуле можа быць прабіты.

Разбурэньне моста, які даў імя гораду, у якім ён знаходзіўся, — гэта зусім ня першы выпадак наўмыснага зьнішчэньня культурнае спадчыны ў гэтай вайне. Ня буду ўжо тут згадваць трагедыі сакральных аб'ектаў на ўсёй тэрыторыі Босьніі й Герцагавіны — у непасрэдным навакольлі Мостара і ў самім горадзе, яшчэ да таго, як адбылося гэтае зьнішчэньне мэтафары, ужо пацярпела шмат помнікаў усіх трох культураў, якія цесна перапляліся на цэнтральнабалканскіх абшарах.

На маю думку, значна важней, чым тое, якой НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ быў чалавек, які аддаў каманду прыкончыць з дапамогаю артылерыі гэты ўжо ня раз пашкоджаны мост, ёсьць пытаньне — хто ён па прафэсіі. Адказ: кінарэжысэр. Калі б у нас хапіла сілы паглядзець на гэтую падзею іранічна, мы маглі б уявіць, што гэтая асоба, якая прафэсійна сталела ў асяродзьдзі панаваньня фільмаваных партызанскіх драмаў — а сярод іх адна з найважнейшых была менавіта пра разбурэньне іншага моста на Нярэтве, крыху вышэй па рацэ, — што тая асоба менавіта тут атрымала натхненьне для сваёй задумы.

Няма сумневу, што разбурэньне моста — гэта мэтафара РАСКОЛУ, гвалтоўнага разрыву сувязі. Гэта тое, што адбылося ня толькі ў Босьні й Герцагавіне, але й на абшарах усёй былой Югаславіі, яшчэ да таго, як упаў мост у Мостары.

Але больш за само разбурэньне моста, аднак, уражвае нешта іншае, бачанае ў кадрах CNN і астатніх тэлевізійных каналаў: шчырая й амаль дзікунская радасьць дзейных асобаў гэтай акцыі ў тым часе, калі вялікія каменныя сэгмэнты падалі ў мірную раку.

Мост — гэта, ведама ж, простая і ўсеабдымная мэтафара. Больш за каго іншага на гэтых абшарах праславіў яе Іва Андрыч. Слова МОСТ прысутнае ў двох ягоных творах — апавяданьні "Мост на Жэпе" і рамане "На Дрыне мост". У гэтых творах МОСТ — галоўны герой. Або, можа, лепш сказаць, мост — СРОДАК або МЭДЫЮМ, празь які выяўляюцца лёс і характары ня толькі тых, хто іх будуе, але й тых, хто каля тых мастоў жыве. Мы, ведама ж, можам запытацца, ШТО ГЭТА ЗА людзі, якія з дапамогаю найсучасьнейшых зьнішчальных сродкаў разбураюць мост (гэтаксама, як мы можам запытацца, ШТО ГЭТА ЗА людзі, якія трымаюць у аблозе гарады, бамбардуюць насельніцтва, якое ня можа бараніцца...), урэшце, ШТО ГЭТА ЗА людзі, якія ў гэткім разбурэньні знаходзяць задавальненьне.

У пэўным сэнсе скандэнсаваную ідэю аб Босьніі й яе людзях мы знаходзім у адным Андрычавым апавяданьні, у якім мост зусім ня згадваецца — гэта "Ліст з 1920 году". Апавяданьне пачынаецца на чыгуначнай станцыі ў Славонскім Бродзе; Першая сусьветная вайна толькі што скончылася, а апавядальнік сустракае свайго крыху старэйшага прыяцеля з сараеўскае гімназіі, жыда, лекара Макса Левэнфэльда, які назаўсёды пакідае Босьнію. Калі ён пытаецца ў яго аб прычыне, атрымвае кароткі адказ — нянавісьць.

Прыход цягніка нечакана перапыняе размову; сустрэча, а таксама й апавяданьне, працягваюцца ў лісьце, якое апавядальнік атрымвае па нейкім часе ад Макса Левэнфэльда. Гэты ліст можа быць зразуметы як нейкае суб'ектыўнае эсэ або трактат аб нянавісьці й страху, які, паводле Левэнфэльда, толькі карэлят нянавісьці. Таму я думаю, што варта было б падаць некаторыя характэрныя фрагмэнты апавяданьня.

На пачатку другое часткі апавяданьня Макс Левэнфэльд скажа, што людзі ў Босьніі адмаўляюцца прызнаваць існаваньне гэтае нянавісьці: "І ты інстынктыўна ўздрыгваеш і абураесься, калі чуеш гэтае слова... як кожны з вас не жадае яго пачуць, зразумець і асэнсаваць. А рэч якраз у тым, што яго трэба было б заўважыць, прызнаць, прааналізаваць. І бяда ў тым, што ніхто ня хоча й ня ўмее гэтага зрабіць. Бо фатальная рыса гэтае нянавісьці якраз у тым, што басьнійскі чалавек не ўсьведамляе нянавісьці, якая жыве ў ім, што ён саромеецца яе аналізаваць, і — ненавідзіць кожнага, хто спрабуе гэта рабіць".



Урэшце — Макс Левэнфэльд канстатуе, што калі б ён застаўся ў Сараеве, ад яго б патрабавалі, каб ён стаў на нечы бок — "каб мяне ненавідзелі й каб я ненавідзеў". А ён гэтага не хацеў, ня мог. І ён пагадзіўся нават стацца ахвярай нянавісьці, каб толькі самому ў ёй ня ўдзельнічаць.

Гэта й ёсьць тое, зусім ня лёгкае становішча, у якім апынулася шмат людзей ня толькі ў Босьніі, але й на тэрыторыі ўсёй былой Югаславіі. Такія людзі былі ва ўсіх асяродзьдзях, аднак трэба сказаць, што на жаль, іх не было зашмат. Або, нават калі іх было й шмат — яны ня мелі ўплыву. І, урэшце, нават калі яны й мелі ўплыў або прынамсі аўтарытэт — яны былі няўзброеныя.

Андрычаў герой, у пэўны момант, скажа таксама, што супольнае сужыцьцё й мультыкультуралізм часта абгортваюцца ў лёзунгі. У часе, пра які гаворыць Андрыч і ягоны герой, ва ўжытку былі такія — пазьней, натуральна, дадаліся й новыя: "Я б брата любіў, якой бы веры ні быў" або "Не пытаюцца, як хто жагнаецца, а чыя кроў у жылах", "Чужое шануй, а сваім ганарыся"

І працягне: "Але адвеку ў басьнійскім грамадзтве было даволі фальшывай грамадзкай прыстойнасьці, мудрага ашуканьня сябе й іншых гучнымі словамі й пустым цырыманіялам. Гэта сяк-так прыхоўвае нянавісьць, але не зьнішчае яе й не замінае ёй гадавацца. Я баюся, што й пад покрывам усіх сучасных мудрых лёзунгаў, у гэтым грамадзтве могуць драмаць старыя інстынкты й каінаўскія пляны і што яны будуць жыць, ПАКУЛЬ ЦАЛКАМ НЯ ЗЬМЕНЯЦЦА АСНОВЫ МАТЭРЫЯЛЬНАГА Й ДУХОВАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў БОСЬНІІ".

Калі й як, дый ці ўвогуле зьмяніліся асновы матэрыяльнага й духовага жыцьця ў Босьніі — сказаць цяжка. Пакаленьне, да якога належу я, гэта значыць народжанае праз шмат гадоў пасьля Другой сусьветнай вайны, сапраўды верыла, што гэта адбылося. Прорвы, поўныя крыві, пакінутыя Другой сусьветнай вайною, былі засыпаныя пад засеньню новае канцэпцыі ЮГАСЛАВЯНСТВА, якую абвесьціла камуністычная партыя. Колькі б цяпер некаторыя ні стараліся давесьці, што гэта было навязана зьверху, супраць волі народу — гэта не зусім дакладна. Супольнае жыцьцё й супольная культура ў гэткай самай меры былі й аўтэнтычным жаданьнем людзей і ў Босьніі, і ў Югаславіі.

Таму можна было б сказаць, што мультыкультуралізм, калі гаворка йдзе пра Босьнію, і ёсьць і ня ёсьць гучнай фразай.

Амаль усе гісторыі Босьніі датурэцкага пэрыяду пісаліся з больш або менш прыхаваных пазыцыяў суседніх народаў; яны або суб'ектыўна сэрбацэнтрычныя, або суб'ектыўна харватацэнтрычныя. Недахоп дакумэнтальных крыніцаў і матэрыялаў зрабіў сярэднявечную басьнійскую гісторыю, як і праблему вядомай ерэтычнай "басьнійскай царквы", абсягам неабмежаваных і часта фантастычных спэкуляцыяў. Але, колькі б ні перашкаджаў нам у гэтым недахоп дакладных зьвестак, мы не памылімся, калі скажам, што і ў старой гісторыі Босьніі можна знайсьці некалькі мультыкультурных аналёгіяў — напрыклад суіснаваньне трох канфэсіяў — праваслаўнае, каталіцкае й "басьнійскае царквы".

Турэцкае заваяваньне й працэс ісламізацыі ствараюць зусім іншую карціну, са сцэны зусім зьнікае мясцовы хрысьціянскі варыянт, "басьнійская царква", затое зьяўляецца новы веравызнаўчы элемэнт. Той пэрыяд, нягледзячы на спачатную талеранцыю, якая ў ісламе была больш выразная, чым у хрысьціянскіх канфэсіях, усё адно нельга назваць пэрыядам суладнага суіснаваньня. Наадварот, для вялікае часткі насельніцтва насталі цяжкія часы, якія цягнуліся некалькі стагодзьдзяў. Якраз з тых часоў паходзяць шматлікія непаразуменьні, якія пазьней, у адпаведных гістарычных абставінах, маглі ажыць і інструмэнталізавацца як гістарычныя траўмы.

З распадам Турэцкае імпэрыі — а гісторыкі Босьніі маглі б сказаць значна болей і пра паўстаньні, і пра спэцыфічны басьнійскі рэгіяналізм, які выяўляецца як супраціў цэнтральнай уладзе — паступова на абшар Босьніі прыходзіць Аўстра-Вугоршчына.

Характэрна, што й пра Аўстра-Вугорскую імпэрыю, і пра абедзьве Югаславіі ў пэўных — вядома, ня ў тых самых — колах, прынамсі, у адным часе гаварылася як пра "турму народаў". Наступствы аўстра-вугорскага панаваньня й эпоху Югаславіі часта разглядаюць у змрочных танах — але рацыянальны аналіз мог бы прывесьці нас да высновы, што матэрыяльная й духовая спадчына тых часоў дастаткова значная. І — хацелі б мы прызнаць гэта або не — і пра адно, і пра другое дзяржаўнае ўтварэньне можна гаварыць як пра МУЛЬТЫКУЛЬТУРНУЮ дзяржаву.

Тут мой роспавед на хвіліну станецца асабістым. Я пакажу вам адно пасьведчаньне аб заканчэньні 4-ае клясы пачатковае школы. Яно выдадзенае маёй бабулі, якая, паводле дакумэнту, нарадзілася ў 1899 годзе ў навакольлі Тузлы, а жыла ў Бялградзе ад 1919 году аж да самай сьмерці ў тым годзе, калі ў Босьніі распачалася новая вайна. Мы маглі б пачаць аналіз ад маркі гербавага збору ў левым верхнім кутку.

Пасярэдзіне гістарычны герб Босьніі — ён адрозьніваецца ад сёньняшняга геральдычнага знаку Босьніі й Герцагавіны, які, па сутнасьці, уяўляе сабою фамільны герб Катраманічаў, сям'і, якая дала найбольшую колькасьць уладароў сярэднявечнае Босьніі. Тэкст "Басьнійска-Герцагавінскі гербавы збор" напісаны колам вакол герба лацінкай і кірыліцай, а тэкст арабскімі літарамі напісаны ўнізе. Падобную сытуацыю з моўнага гледзішча мы маглі б пабачыць і калі б паддалі аналізу аўстра-вугорскія банкноты.

Пра Аўстра-Вугорскую імпэрыю напісана шмат кніг — бальшыня зь іх, вядома, прадстаўляе сынтэтычны погляд. А якім бы мог быць погляд зьнізу, скажам, суб'ектыўны погляд маёй бабулі? Сёньня звычайна ўяўляецца, што сэрбы, а значыць і басьнійскія сэрбы, займалі выключна нэгатыўнае становішча ў дачыненьні да накінутага ім аўстрыйскага ўладарства. У фрагмэнтарных аповедах маёй бабулі Аўстрыя паўставала ня як заваёўніцкая, але значна больш як УПАРАДКАВАНАЯ дзяржава. Найслушней, магчыма, было б сказаць, што яе вобраз у значнай ступені амбівалентны. Гэта была чужая дзяржава, дзяржава, якая зьбірае з сэрбаў падаткі й пасылае іх дзяцей на далёкія франты, дзяржава, якая — якраз дзеля анэксіі Босьніі — мае напружаныя дачыненьні зь іх цэнтральнай дзяржавай — Сэрбіяй, але, зь іншага боку, гэта дзяржава, якая праклала дарогі й чыгункі, збудавала шматлікія публічныя будынкі, якія, нягледзячы на бамбардаваньні, стаяць і сёньня. Урэшце, гэта дзяржава, якая дазваляла ім удосталь выяўляць сваю нацыянальную сьведамасьць праз школы, культурныя й іншыя арганізацыі.

Пасьля заканчэньня сярэдняе школы мая бабуля атрымала імпэратарскую стыпэндыю ў акадэміі ужытных мастацтваў у Вене на 1914-1915 навучальны год. А цяпер апошні раз зьвернемся да яе пасьведчаньня; у Вену яна не паедзе, бо ў Сараеве забіты эрцгерцаг Франц Фэрдынанд. А каб парадокс быў большы, заўважым, што як сябра "Маладой Босьніі" за ўдзел у замаху быў засуджаны й пазьней павешаны яе настаўнік Вэлька Чубрылавіч, чый подпіс стаіць у ніжнім правым кутку пасьведчаньня. Гэта, вядома, не адзіны парадокс — калі Гаўрыла Прынцып распачаў вайну, прынамсі калі гаворка йдзе пра Аўстрыю, дык скончыў яе зноў жа адзін сэрб — камандзерам апошняе аўстрыйскае арміі, якая склала зброю на Сочы быў фэльдмаршал Сьветазар Бароевіч.

Югаславія, якою яна выйшла зь Першае сусьветнае вайны, была створаная зь вялікім энтузіязмам, аднак канцэпцыя унітарнага або ІНТЭГРАЛЬНАГА ЮГАСЛА-

ВЯНСТВА імкнулася — беспасьпяхова —гвалтоўна выкараніць усе нацыянальныя асаблівасьці. За тое, што ў Аўстрыі дазвалялася, цяпер людзі йшлі за краты, а маханьне нацыянальным сьцягам, хоць бы й сэрбскім, каралася грашовымі штрафамі. Калі неўзабаве перад Другой сусьветнай вайной сталася ясна, што канцэпцыя зьліцьця народаў засуджана на няўдачу, Югаслаўскае каралеўства ўступіла ў працэс фэдэраваньня паводле нацыянальнага прынцыпу, але працэс гэты перапыніла вайна. Яна, вядома, магла б стацца асобным разьдзелам — зладзействы, учыненыя ў тагачасных міжэтнічных сутычках, ня могуць і не маглі б не адгукнуцца і ў сёньняшняй вайне.

Аднак важна, як мне здаецца, што пераможцам у той вайне выйшлі тыя, хто прапанаваў фэдэрацыю на новай аснове. У факце, што "ў пакеце" з новай канцэпцыяй фэдэрацыі закладзеная й пэўная ідэалёгія, хавалася й небясьпека — тая міна, якая пазьней непазьбежна выбухне. І зноў тут мы маем сытуацыю, калі мультыкультурнае жыцьцё разьвіваецца ў ценю агульнае нецярплівасьці.

Пра мультыкультуралізм другой Югаславіі, яе найноўшага пэрыяду, ужо йшла гаворка, зрэшты пра гэты час яшчэ вельмі добра памятаюць сёньняшнія жыхары Босьніі і ўсёй колішняй Югаславіі. Ідэалягічны ўціск паступова слабеў, але выявілася, што перажыць ягонае зьнікненьне тая напружаная раўнавага — Югаславія, якою яна была — ня здолела. У марных спробах захаваць шырэйшыя, хоць і значна паслабленыя рамкі нейкага дзяржаўнага злучэньня ў Заходніх Балканах галасы з Босьніі былі найбольш шчырыя і, магчыма, найбольш масавыя. Але, як мы пабачылі, гэта не дапамагло ўратаваць мір і шырэйшыя рамкі злучэньня народаў.

У гэтым самым месцы, на возеры Вігры, летась, у адной вельмі агульнай размове я згадаў тэзу Тойнбі пра limes — памежжа. Вядома ж, няма ніякага сумневу, што ўсе землі колішняе Югаславіі месьцяцца ў зоне, дзе пераплятаюцца тры ня толькі рэлігійныя, але й цывілізацыйныя мадэлі. У часы цывілізацыйнага ўздыму адбываецца ўзаемапранікненьне, і такое становішча выяўляецца як перавага. У часы вялікіх тэктанічных і гістарычных зрухаў — а наш час зьмены колішняе біпалярнае структуры сьвету бясспрэчна да іх належыць — становішча на памежжы абарочваецца надмерным цяжарам.

І, урэшце, мы мусім нагадаць, што пра Босьнію й Герцагавіну ў пэрыядзе пасьля Другой сусьветнай вайны, гэта значыць у пэрыядзе, які ў Югаславіі праходзіў пад лёзунгам "братэрства й адзінства" — з тым што ў цэнтральнай рэспубліцы гэты лёзунг праводзіўся ў жыцьцё значна стараньней, чым у іншых частках краіны — часта гаварылася як пра "Югаславію ў паменшаным выглядзе". Як кажа адна паўднёваславянская народная прыказка, каму вайна — труна, а каму — поўная машна. Мяне зусім ня зьдзівіць меркаваньне будучых гісторыкаў і сацыёлягаў аб тым, што ўся гэтая нацыяналістычная істэрыя і крывавая оргія, у якой сотні тысячаў людзей страцілі жыцьцё, а мільёны — дом і бацькаўшчыну, мела адну цэнтральную прычыну — грошы. Гэтае гвалтоўнае пераразьмеркаваньне капіталаў адбываецца адначасна з працэсамі, якія яго прыкрываюць, але й пакідаюць балючыя сьляды. Працэсы, якія раздрабілі Югаславію, не маглі спыніцца на яе ўнутраных межах. Таму й цяжка ня трапіць у лягічную пастку, калі патрабуецца або падтрымваецца дэзінтэграцыя колішняе Югаславіі ў нацыянальныя дзяржавы, і ў тым самым часе высоўваецца ідэя транснацыянальнай, адзінай і непадзельнай Босьніі й Герцагавіны. Паводле пастановы, якая ўжо абмеркаваная й падпісаная, мяркуючы з усяго, з разбуранай вайною Босьніі й Герцагавіны ствараецца нешта падобнае да таго, чым была колішняя Югаслаўская фэдэрацыя. Гэта, вядома ж, яшчэ адна міна. Таму я думаю, што нягледзячы на тое, што сёньня гэта можа гучаць як утопія, і нягледзячы на ўсё тое, што адбывалася на балканскіх абшарах у апошнім дзесяцігодзьдзі дваццатага стагодзьдзя, адзіным развязаньнем для колішніх югаслаўскіх земляў можа быць нейкая новая, гнуткая й разам з тым рацыянальная інтэграцыя.

Хочуць яны таго, або не — усе самаўпэўненыя балканскія народы прыйдуць да нейкае формы бачнага або нябачнага пратэктарату, чым адзіным заданьнем будзе зноў навучыць іх жыць разам.

Пераклаў з харвацка-сэрбска-басьнійскай Сяргей Шупа

** Выступ на сэмінары "Зразумець Босьнію", Сэйны, кастрычнік 1995 г.*

# "Літоўская мэтрыка"

Фонд "Наша Ніва" мае намер завезьці ў Беларусь тамы Літоўскае Мэтрыкі, што выйшлі летась у Вільні. Гэта тамы №6 ды №8, пра якія "Наша Ніва" ўжо пісала (№3, 22 сакавіка 1996 г.). Арыентоўны кошт тому — 10 даляраў.

Заяўкі на тамы "Літоўскае Мэтрыкі" просім дасылаць паштоўкамі на адрас: Менск 220094, а/с 89, Андрэй Андрыеўскі.

Пра ўмовы атрыманьня кнігаў будзе паведамлена ў другой палове траўня.




# Кніга — поштай

## На складзе Фонду "Наша Ніва" маюцца кнігі:

**1. Адам Глёбус. Толькі не гавары маёй маме...** Зборнік інтымнае прозы. — Менск: Сучасная літаратура, 1995. — 310 с.
Кнігі новай сэрыі "Сучасная літаратура" разьлічаныя на поўную самаакупнасьць. Займальныя сюжэты, даверальны тон, даступнасьць — характарыстыкі гэтай сэрыі.
41.000 БРБ

**2. Адам Глёбус. Скрыжаваньне.** — Менск: БАДППР — "Ковчег", 1993. — 46 с.
Апошні зборнік вершаў Адама Глёбуса. Многія з гэтых тэкстаў сталі агульнавядомымі песьнямі, многія перакладаліся на розныя мовы.
7.000 БРБ

**3. Энтані Сміт. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі.** — Менск: БФС — "Эўрафорум", 1995. — 272 с.
Кніга прысьвечана шматлікім трансформацыям нацыяналізму ў нашым стагодзьдзі, параўнаньню яго з такімі ідэалёгіямі "выратаваньня сьвету", як камунізм, фашызм і расізм.
20.000 БРБ

**4. Джын Эйчысан. Гаваркія істоты:** Уводзіны ў псыхалінгвістыку. — Менск: БФС — "Кліч", 1995. — 312 с.
Псыхалінгвістыка — новая галіна ведаў. Дасьледаваньне прысьвечанае аналізу таго, што ў нашай мове зьяўляецца вынікам навучаньня, а што мае біялягічныя перадумовы.
20.000 БРБ

**5. Юліяна Вітан-Дубейкаўская. Мае ўспаміны.** — Вільня, 1994. — 192 с.
Гісторыя ахвярнага каханьня набожнай жанчыны і безнадзейна хворага мужчыны. Яна — дачка віленскага купца немца Юліяна Мэнке, ён — беларускі палітык і антыквар Іван Луцкевіч.
29.000 БРБ

**6. Баляслаў Лесьмян. Пан Блішчынскі** / Пераклад з польскай. — Вільня-Менск: "Наша Ніва" — "Мастацкая Літаратура", 1994. —93 с.
Клясык польскай паэзіі Баляслаў Лесьмян (1878-1937) стварае маляўнічы й звабліва сьвет інтымных перажываньняў чалавека.
17.000 БРБ

**7. Вітаўт Кіпель. Беларусы ў ЗША.** — Менск, 1993. — 352 с.
У кнізе беларускага эміграцыйнага дасьледніка ўсебакова разглядаецца гісторыя і сёньняшні дзень беларускай дыяспары ў Злучаных Штатах Амэрыкі.
29.000 БРБ

**8. Беларускі рок-н-рол:** Тэксты ("Бонда", "Крама", "Мроя", "Новае Неба", "Уліс"). — Менск: "Ковчег", 1994. — 64 с.
7.000 БРБ



Каб атрымаць патрэбную Вам кнігу, трэба пералічыць указаную суму грошай на адрас: Андрыеўскі Андрэй Паўловіч, Менск 220094, а/с 89. Не забудзьцеся падаць свой адрас.




**1. Калосьсе, №1-1993.** — 60 с.
У нумары зьмешчаныя творы Юрася Пацюпы, Леры Сом, Ігара Сідарука, Алеся Аркуша, Юрыя Гуменюка, Кастуся Гаманца і іншых, успаміны Андрэя Чэмера і Анатоля Іверса пра віленскае "Калосьсе" 30-х гадоў і ягонага рэдактара Янку Шутовіча.
10.000 БРБ

**2. Калосьсе №2-3-1995.** — 144 с.
Творы Хведара Ніцкі, Славаміра Адамовіча, Вінцэся Мудрова, Ігара Сідарука, Алены Шаціла, Васіля Крохвы, першая кніга "псыхадэлічнага" рамана Юрыя Гуменюка "Апосталы Нірваны".
25.000 БРБ

**3. Вінцэсь Мудроў. Жанчыны ля басэйна.** — Менск: Мастацкая літаратура, 1992. — 160 с.
Першы зборнік прозы аднаго з "дыназаўраў" сучаснага беларускага андэграўнду.
15.000 БРБ

**4. Юры Гумянюк. Твар Тутанхамона.** — Полацак: Полацкае ляда, 1994. — 52 с.
Другі паэтычны зборнік паэта-постмадэрніста, вершы: "Прагулянка маркіза дэ Сада", "Гарэлкі поўны капялюш", "Фанэра над Парыжам", "Сьлімакі" ды іншыя.
10.000 БРБ

**5. Алесь Аркуш. Разьтаньне з Танталам.** — Полацак: Полацкае ляда, 1994. — 54 с.
Зборнік вершаў, пострамантызм, "нешта больш салодкае за Рай і страшнейшае за Пекла — блуканьне па кругах уласнае душы. Самастойна. Без Вэргілія" (Алена Шаціла).
10.000 БРБ

**6. Ігар Сідарук. Саната Арганата.** — Полацак: Полацкае ляда, 1994. — 64 с.
Ненармаваная лексыка, жудасныя сюжэты, "любоўшчы".
10.000 БРБ

**7. Лявон Вольскі. Калідор.** — Полацак: Полацкае ляда, 1993. —38 с.
Зборнік паэзіі, якія вядомы паэт-рокер напісаў у адзінаццаці іпастасях.
10.000 БРБ

Каб отрымаць патрэбную Вам кнігу, пералічыце названую суму грошай на адрас: Алесь Козік, Наваполацак-11, п/с 36. Не забудзьце падаць свой адрас.

## На складзе Фонду "Наша Ніва" ёсьць на продаж касэты:




1. **НОВАЕ НЕБА. Сон у трамваі:** Сон у трамваі; Выбар; А ты забудзь маё імя; Жахлівая прыгажосьць; Дом; Калыханка; Таму што; Той, хто стаіць у мяне за плячыма.
2. **НОВАЕ НЕБА. Go home (1995):** Прэзыдэнт, ідзі дамоў; Дакраніся да вады; Падае сьнег; Крот-2; Электарат; Цемра; Выгнаны сын; Канцэрт у Westclub 7 сакавіка 1995 г. (Жывы гук).
3. **КРАМА. Хворы на Rock-n-Roll:** Бяжы, хлопец; Здраднік; Хворы на рок-н-рол; Выпі са мной да дна; Чыкага найтс; Каханьне а шостай гадзіне; Стэфаніда; Мне мой сябра сказаў; Новая кроў; Будзь разам з намі.
4. **N.R.M. LaLaLaLa (1995):** Белыя лебедзі; Нацыя; Дарога; Мітусьня; Не хадзіце ў цёмны лес (Зомбі); Бацька; Трактар; Дзе тое слова; Дайце; Бывай; Лалалала; Халі-галі.
5. **ULIS. Life (1996):** Як плынь ракі; У вагні; Паходная; Па-над дахамі; Залаты ланцуг; Аднойчы; Пачвара; Усё было недарэчы; Альбо бывай; Па калідоры; Астатні цягнік; Усё альбо нічога; Цмок, каралева.
6. **БОНДА. Найлепшыя песьні:** Не сьпяшайся; Ліст дадому; Слуцкая брама; Кожны з нас; Падарожжа; Блюз; Вынаходнікі; Стэфка; Соль жыцьця; Раз-пораз...
7. **РЭНЭСАНС (беларускі джаз);** Sensation; Dippermouth Blues; Solitude; Medley: Hello, Dolly, Black Eyes(trad tune), Mack the Knife; Tin Roof Blues; Panama; St.James Infirmary (trad. tune); Mikita (Belarusian folk song); Washington and Lee Swing; Finish Polka (trad. tune); Memfis Blues; High Society; Basin Street Blues; Russian Dance Tune; I've Founde a New Baby; Tiger Rag.
8. **БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ:** Коцік Петрык і мышка; Пра што кукуе зязюля; Пых; Сынок з кулачок; Коцік, пеўнік і лісіца; Пшанічны каласок; Дзедава рукавічына; Пра падчарку; Пра старога ката; Як баба гуся прадавала; Сіняя сьвіта.
9. **РОК СУПРАЦЬ РЭВАЛЮЦЫЯЎ** ("Новае неба", "Зіндан", "Уліс", "Мроя", "Крама").
10. **БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА (1-3)**

**Фонахрэстаматыя, т.1:** Беларускія канты; Песнапеньні пра Ефрасіньню Полацкую; Музыка невядомага аўтара XVIII ст. на вершы Сымона Полацкага; Помнік музычнай культуры Беларусі XVI-XVII ст. "Полацкі сшытак"; Мацей Радзівіл. Дывэртысмэнт у трох частках; Яган Давід Голянд (лібрэта М.Радзівіла). Опэра "Агатка, або прыезд Пана" (1784 г.); "Нясьвіская мэса" 1730 г. (фрагмэнт); Тадэвуш Касьцюшка (1745-1817). Палянэз; Восіп Казлоўскі (1757-1831); Міхал Клеафас Агінскі (1765-1833). Паланэз Фа мінор, Паланэз Ля мінор "Разьвітаньне з Радзімай"; Міхал Казімер Агінскі (1730-1800). 3 сшытка рамансаў "Да Касі"; Эрнэст Ванжура. Увэртура да балетнай пантамімы "Арлекін-нявольнік".

**Фонахрэстаматыя, т.2:** Л.Шлег (сл. народ.). Лубок; Д.Смольскі. Канцэрціна для сола скрыпкі і аркестру; Э.Казачкоў. Увэртура для духавога аркестра; Рафаіл Вардоцкі. Апалён-заканадаўца, лібрэта М.Цяцерскага.

**Фонахрэстаматыя, т.3:** А.Бандарэнка, сл. Мітрапаліта Кіеўскага Іларыёна. Пахвала Вялікаму князю Ўладзімеру Сьвятаславічу; А.Мдзівані (сл. народн.). Гусельці; А.Багатыроў. Маладыя гады; В.Войцік. Сюіта ў старадаўнім стылі для цымбалаў; М.Чуркін. Калыханка для скрыпкі і ф-на; Л.Мурашка. Саната для фартэпіяна.

Для атрыманьня адной касэты неабходна даслаць 20.000 руб. на адрас: 220094 Менск, а/с 89, Андрыеўскаму Андрэю Паўлавічу. Не забудзьцеся падаць Ваш адрас.

# Славамір Адамовіч



\+ + +

*З цыклю "Каханьне пад акупацыяй"•*

Зайшла. Расказала пра мужа,
аптэку, праблемы дачкі,
згадала, што трэба стужак
чырвоных купіць і гаршчкі
пад кветкі — растуць яны хутка
(каму ж, як ня ім, расьці).
Шапнула: "Гуляе чутка,
што могуць па вас прыйсьці".
"Напэўна. І ўжо хадзілі...
Ды што ж нам стаяць вось так?
Пакуль яшчэ не пасадзілі,
давайце мы зьдзейсьнім акт.
Давайце накрыем белым
казённае кана-пэ
і нашым супольным целам
мы выкажам ворагу "фэ".
Пакуль ён стаіць за дзьвярыма,
мы будзем спружынай рыпець
і пахнуць любоўным зарынам,
і плакаць, і ксьціцца, і пець.
Вы згодны з такім праектам?"
"Я згодна, давайце зьдзяйсьняць:
я буду вашым аб'ектам,
які неабходна кахаць..."
І так мы любіліся доўга,
а ён за дзьвярыма стаяў
і кляў на чым сьвет свайго бога,
пакуль канчаткова ня зьвяў.
У дзевяць мы выйшлі з кватэры,
зірнулі на скурчаны труп,
і сталі сьмяяцца бязь меры
спакусьлівым сьмехам суккуб.

*• Гэты верш — адзіны твор С.Адамовіча, які адшукаўся ў "Нашай Ніве" пасьляператрусу, праведзенага ў рэдакцыі "веднікамі" з КГБ 24 красавіка 1996 году. Падчасператрусу ў нас былі сканфіскаваныя ўсе архіўныя паперы, здымкі, дзёньнікі etc., якія мелі хоць нейкае дачыненьне да асобы С.Адамовіча.*

*Нагадаем, што паэт і журналіст Славамір Адамовіч (нар. 1962), які зьмясьціў у "НН" некалькі сваіх артыкулаў, цяпер знаходзіцца ў сьледчым ізалятары КГБ у Менску. Крымінальная справа ўзбуджаная за верш "Убей президента", надрукаваны ў віцебскай газэце "Выбар" і ў самвыдацкай улётцы "Лукашенская правда". С.Адамовічу інкрымінуецца заклік да тэрарыстычнага акту і зьвяржэньня цяперашняй улады.*

*Паказальна, што ўсё абвінавачаньне будуецца толькі на інтэрпрэтацыі згаданага верша, бо ані прозьвішча прэзыдэнта, ані краіна там не называюцца. Мы маем справу з клясычным прыкладам перасьледу за друкаванае слова, калі ў якасьці доказаў выстаўляюцца домыслы. Гэтым тлумачыцца зацікаўленьне, якое выявілі да справы С.Адамовіча міжнародныя праваабарончыя інстытуты, сярод якіх — арганізацыя "Пісьменьнікі ў турме".*

*Сёньня цяжка прадбачыць, чым закончыцца справа С.Адамовіча і ці прынясуць плён захады праваабаронцаў. Але тое, што мы маем справу зь першым арыштам паэта ў Беларусі за апошнія паўстагодзьдзя, — гэта ўжо зьдзейсьнены факт. Ён належыць гісторыі, гэтаксама як многія творы Славаміра Адамовіча належаць анталёгіі нацыянальнай паэзіі.*

*Верш "Зайшла. Расказала пра мужа..." публікуецца ўпершыню.*

# КАЛЕКЦЫЯНЭР

## АПАВЯДАНЬНЕ

Цяпер сьцеражыся, каб не памерці раптам... Разанаўская "Гліна" спаўзла з паперы ўніз, распласталася белым на доле, сабрала нябачным магнітам у дбайную варону два чорныя слупкі штрыхоў. Бессаромная, дзяўбла скандальная асоба лёд і ня чула, што слухае яе зьверху ўніклівае вуха Калекцыянэра.

Заспаны, ён называў сваё імя: дрыготка-шурпатае, з шапацեньнем падсмажанага на ветры лісьця. Але мяне занадта спакушалі выцягнутыя ўперад губы, таму ня маю моцы ўзгадаць гэтую таямніцу, што раскрыла б вам карты альбо перасьцерагла. Усё ж абяцаю, што навучу вас хадзіць па цнатліва скурчаных сьцежках, хаця... Баюся, што цнота — менавіта тая рэч, якую згубіў на іх Калекцыянэр...

А на пяць паверхаў вышэй за варону, у пустой аўдыторыі ін'язу з адным стомленым чаканьнем мяне госьцем, горад глуха загучаў. Перастаралася настырная наша сяброўка: скубанула-ткі балючага нэрву — ажно званы ліхтароў пахіснуліся на дратах. Ганарлівая вулка войкнула, сьцялася, тарганула зьнянацку горад, пацягнула старыя струны — спудзіла немы сон. Горад крутануўся пашарпанай плытаю, і прызначэньне ня ўстояла: расьціснула старэчыя пальцы, выпусьціла ручку ад грамафону — дзынь. Апладысмэнты дзьвярэй, апантанасьць тралейбусаў, істэрычнасьць тэлефонаў, флегматычнасьць лядоўняў, сутарговасьць відэльцаў у шуфлядзе, прывітаньні, пацалункі, маланкі, шампанскае, пыркі... зайгралі невыносны катастрафічны джаз. Ён ірваў нутро на словы і патрасаў імі, як румбай, у гонар першаадкрывальніка...

Сказаць праўду, цяжар славы мучыў Калекцыянэра яшчэ ў дзяцінстве. Уявіце сабе, якая гэта пакута для дзіцяці ў клятчастай кашульцы і памаранчовых калготках — ня марыць, а ведаць, што ты станеш знакамітым мастаком, пісьменьнікам, музыкам... Таму, калі аднагодкі ў "Плянэтарыі" глыталі ад захапленьня зоркі, бедны Калекцыянэр са скрухай шаптаў сабе: "Вам дык добра дзівіцца, а мне туды сапраўды ляцець..." Але ўсё ж наканавана яму было застацца ў вялізнай каробцы з чалавечкамі, зь якімі забаўляліся няўмольныя і адчужаныя волаты.

Па сутнасьці, яны не перашкаджалі маленькаму Калекцыянэру і нават дазволілі, гадоў праз дзесяць, абазваць сябе прымхамі. Калекцыянэр жа крыўдзіўся, калі ліхтугі адскубалі жывое мяса з яго душы, і ўсё гадаў, чаму волаты такія несумленныя і несправядлівыя да любага хлопчыка. Паверце, ён бы здаўмеўся, каб не адна супярэчлівая асаблівасьць: Калекцыянэр адчуваў, што ведае ўсё, таму нічога не дадумваў да канца. Наш празарлівец навучыўся толькі зьлёгку дакранацца да клявіятуры, бо кожная ідэя абяцала быць удалай і кожная загадка самааддана скідвала чаравікі. Але паступова сэнсы зашыліся ў шкляную глыбіню, на паверхні якой ужо немагчыма было ўтвараць разгадкі. Раней шчыры й непасрэдны, творца зьлякаўся альбо проста аступіўся і пасьпяхова сасьлізгнуў на шахматную дошку. Там ён пэрыядычна займаў то чорныя, то белыя клеткі — абы жыць паводле правілаў, шчасьлівым падданым Яе Вялікасьці Неабходнасьці.

Наваяўлены пераможца ў шахматах і файны артыст, Калекцыянэр прыхільна прыняў сяброўства Заведзенага Парадку. Пабрацку падзяліўшы ўтульны фатэль (Калекцыянэр — ленавата, у атачэньні трох мяккіх сьценаў, Парадак — груганом на сьпінцы), яны каціліся па аб'ежджанай вузкакалейцы (дзякуй Богу, не пад адхон), маўчалі, лупілі вочы на сонца, ніколі ня бачылі месяца і наагул славіліся як самыя дабрадзейныя пэрсоны. (Сумняюся, праўда, што на іх калі-небудзь глядзеў сьвет.) Але, як прынята, аднойчы рэйкі скончыліся, і пад руку ня трапіла ніякай мапы, акрамя ўласнай далоні. І ці то сэнсы варухнуліся ў сьненьні, ці то смутак па іх уткнуўся ў шыю, аднак нешта далікатнае й кісьлявае здрыганулася, прашкраблося па горле і выскачыла вонкі. Прэч. Прэснае бясьсільле расплылося ў душы й роце. Раптоўная спустошанасьць абясквеціла выратавальныя сэмафоры й апрасьціла сьмерць. Тытры з акторамі-агучвальнікамі й імёны перакладчыкаў былых-паэтаў угрызьліся пячаткай у "Сэртыфікат Калекцыянэра". Ды й што заставалася чалавеку, які больш ня ўмеў жыць, калі не калекцыянаваць? Адчуваньні, уражаньні, дні, думкі...

Цяпер Калекцыянэр дакладна быў асуджаны на заведама добрае, але не на жаданае. Снабісцкі лёс клапатліва выкрасьліў стылёвыя памылкі і нават нязначныя сэнтымэнтальныя банальнасьці. О не, Калекцыянэр ня быў адзінокі — яму бясконца дапякалі карагоды разнамасных дабрадзеяў, але ніхто зь ягоных прыяцеляў не падазраваў, што ён меў патрэбу ў іхных пустых кватэрах, але не ў спачуваньнях. Можа, гэтая цяга да замкнёных бязьлюдных памяшканьняў і зрабіла Калекцыянэра начным вартаўніком у аптэцы, дзе ён спаў нераспрануты на чорнай дэрматынавай канапе. А зранку (калі сьнег сьлязьліва бурчэў на сьвятло) яго вытачаная, быццам сьпісаная з дыпілёнскай амфары, пастава атручвала лекавым пахам трамвай. Стомленыя вочы колеру поўні счысчалі зь мяне пыл, як пэндзаль археоляга, калі я цікавала за "ой-якім-бледным-вытанчаным-хлопчыкам... -напэўна-распусьнікам" з апошняга сядзеньня. Тады я яшчэ не спрабавала намаляваць, як Калекцыянэр вяртаецца ў трохпакаёвую кватэру, дзе бегаюць мама, тата й сястра. Я не ўяўляла, як ён прымае душ, п'е каву, плоціць за газэты і ўключае "Радыё Рокс". Гэта пазьней я даведалася, што пакой Калекцыянэра —зборышча прыгожых шматзначных рэчаў і нават на заплечніку, зь якім ён ідзе на вечаровы архітэктурны факультэт, —рэпрадукцыя Пікаса. І, бадай, адзінае, чаго мне не ставала месяцы праз тры — гэта пракрасьціся ў дом Калекцыянэра і падгледзець, як ён чытае, паліць, думае й засынае на зялёнай канапе да чарговага тэлефоннага званка.

А пакуль... Калекцыянэр дабрадзейна нанізваў кампаніі, джазавыя кавярні, напаўэлітарныя клюбы, "постэлітарнае" кіно... Былая прыязнасьць да людзей, музыкі перайшла ў любоў да прыязнасьці, і ўжо цяжка было разабрацца, ці сутнасьць гэтыя густы, ці "прафэсія". Прынамсі, гульнёй у бізнэс жыцьцё ўсё-ткі стала. І ў гэтым сьвеце штучных умоваў аднойчы мела адбыцца зьдзелка.

# Станіслаў Ежы Лец

# Непрычасаныя

Разбураючы помнікі, не кранайце пастамэнты. Яны заўсёды спатрэбяцца.

Мне сьніўся кашмар: перарост бюракратыі ў краіне, дзе нядаўна скончылі ліквідацыю непісьменнасьці.

Уваскрасаць могуць адно трупы. Жывым цяжэй.

Усё ў руках чалавека. Таму мыць іх трэба часта.

Нават бараду прарока можна пагаліць.

Я веру, што чалавек некалі створыць "Гамункулюса", штучнага чалавека, але хай ён не стварае яго на ўласнае падабенства, як гэта памылкова зрабіў Бог.

На сьледчым экспэрымэнце труп не распазнаў свайго забойцу.

Мне сьнілася рэчаіснасьць. Прачнуўся з палёгкай.

Лепей ужо надпіс "Уваход забаронены", чым "Няма выйсьця".

Заўжды знойдуцца эскімосы, якія распрацуюць для жыхароў Конга ўказаньні, як сябе паводзіць падчас найбольшых сьпёкаў.

Калі міт сутыкаецца зь мітам, сутычка заўсёды вельмі рэальная.

А можа Бог хацеў, каб я быў атэістам?

Ня маючы хрыбта, не вылазь са скуры.

Нават на троне праціраюцца порткі.

Я — прыгожы, я — дужы, я — разумны, я — добры. І я сам усё гэта адкрыў!

Балота часам стварае ілюзію глыбіні.

Свабоду ня можна сымуляваць.

"Я толькі пальцам яму прыгражу", — сказаў ён, кладучы палец на спуск.

Падзяляць людзей можна па-рознаму! Вядома. Можна на людзей і вылюдкаў. Зьдзіўлены кат сказаў: "Я падзяляю іх на галовы й тулавы".

Калі б можна было даіць ахвярнага казла!

Прыгожая хлусьня? Увага! Гэта ўжо творчасьць.

Ня скокай з матыгай на сонца. Нам павінна хапіць яго яшчэ на мільярды гадоў.

Нават у ягоным мысьленьні былі моўныя памылкі.

Ён нагадвае вош на лысіне. Вакол бляск, а усё адно — вош ёсьць вош.

Авечка, што мела залатое руно, не была багатая.

Богу — богава, кесару — кесарава. А што людзям?

Ня будзь снобам. Ня хлусь, калі за праўду болей плоцяць.

"З аднаго крыжа можна было зрабіць дзьве шыбеніцы", — з пагардай сказаў спэцыяліст.

Я сустрэў настолькі ненавычытанага чалавека, што цытаты клясыкаў ён вымушаны быў прыдумваць сам.

Многія бумэрангі не вяртаюцца. Выбіраюць свабоду.

Часам нават дурны бот пакідае незьнішчальны сьлед.

Калі плёткі старэюць, яны стаюць мітамі.

Глупства не вызваляе ад мысьленьня.

Часам д'ябал мяне спакушае паверыць у Бога.

Ніхто ня хоча адчуваць смаку дрожджаў у цесьце, якое менавіта дзякуючы ім стала хлебам.

У што я веру? У Бога, калі ён ёсьць.

Калі народ ня мае голасу, гэта чуваць нават тады, калі сьпяваюць гімн.

Нават сабака ў сталіцы брэша больш цэнтральна.

У барацьбе ідэяў гінуць людзі.

А той, хто нявінны, хай першы кіне камень. Пастка. Тады ён ужо ня будзе нявінны.

Чым меншыя грамадзяне, тым большай ім здаецца імпэрыя.

Тое, чаго ня можна сабе ўявіць, часта можна сабе купіць.

Падумай, перш чым падумаць.

Ня ведаючы замежнае мовы, ніколі не зразумееш маўчаньня чужаземцаў.

Калі міт ператвараецца ў рэальнасьць, чыя гэта перамога —матэрыялістаў ці ідэалістаў?

Прымаўкі пярэчаць адна адной. Менавіта ў гэтым народная мудрасьць.

"Гэта толькі мэтэор", — пагардліва сказала сьвечка.

Пурытане павінны насіць два фігавыя лісткі на вачах.

Клічнік, які стаміўся, робіцца пытальнікам.

Усё — ілюзія. Папярэдні сказ — таксама.

Кульгае — значыць, ідзе.

Нават відавочна было, што Галоўны Гандляр Рабамі ніколі ня дасьць калекцыянэру тое нясьцерпнае Нешта, якое лунала побач, але не знаходзіла выразу. Ды й якая-небудзь суджаная Яна ніяк не хацела ступіць у халодны ручай падрыхтаванага вобразу.

З прыкрасьці Калекцыянэр сьціснуў у кішэні нерасколаты каштан, калючкі яго супакоілі й суцешылі небараку. Ён пачуўся змоўшчыкам у цёмным горадзе жаданьняў: усе тут мелі каханьне альбо поўную яго адсутнасьць, а ён, Калекцыянэр, — шчаціністы каштан.

Але хвароба ўжо цалавала паветра, і прадбачаньне зусім не прадухіліла, а паскорыла Яе надыход. А менавіта... Наступным днём. Калі валасы аптэкара яшчэ не абсохлі пасьля душу. І далікатная парфума апраўдана песьціла фанабэрыю. Разам зь сябрамі ў дзьверы ўшчамілася трамвайная дзяўчына з тварам коткі.

— Не палі..

Яна пачынала рухацца так рэзка, быццам Яе казыталі, а працягвала ляніва, нібы паблажліва да ўласнага ўменьня хадзіць. Яна размаўляла так хутка і такім мятным голасам, што Калекцыянэр пачырванеў. Яна была непрадказальная, але сказаць пасьпявала ўсё. Яна назвалася ўсімі, кім толькі можна: перакладчыцай, студэнткай, геніем, удавой, мастачкай і, здаецца, журналісткай. Сапраўды, Яна рабіла ўражаньне ачумелай коткі, якую бесьперапынна то гладзілі, то тузалі за хвост.

— Але ж не палі.

... Дома, на апошнім, трэцім, паверсе белага будынку, Яна ўвесь час спакушала саксафон і падалася не такой мітусьлівай, хаця шапялявай і досыць зьедлівай. Калекцыянэру падабалася, што ўсё, што Яна ні рабіла, выглядала неяк культава, хоць і высьветлілася потым, што абрадавая засяроджанасьць — ад дрэннага зроку. Наагул жа герой крыху асьцерагаўся Яе розуму, але зацята прасоўваўся ў напрамку Яе прывіднасьці. Успрымальная да лісьлівасьці, Яна ацаніла такую дагодлівую настойлівасьць і ўзьвяла Калекцыянэра ў каханкі. Вас гэта расьсьмешыць, але яшчэ два гады мы абодва былі ўпэўненыя, што сустракаемся ўпотай. Употай адзін ад аднаго. Далібог, ня ведаю, нашто я згадзілася на гэтую сьвядомую памылку, але прызнаюся, Калекцыянэр — адзіны чалавек, які мяне перахітрыў. Прасьвятленьне не каштавала мне ні жыцьця, ні веры, але, прыхаваная зьдзічэлым павуціньнем парку, я разьдзёрла-ткі зубамі вусны:

— Не палі.

— Але чаму, нарэшце?

— Проста мне патрэбны твой пах.

— Пах?!

— Пах сьліваў і апэльсынаў.

... Мой мілы Калекцыянэр. Ты памрэш на сваёй канапе ў пантофлях, агорнутых пылам, і гэта будзе ня пыл падарожжаў, а пыл зьдзейсьненага жаданьня, дасягнутай мэты, блазнаватай задаволенасьці. Гэта будзе сьлед няпройдзенага, непражытага, непераадоленага — ці то ўсяго, што ты вылучыш сваім запаветным спакоем сярод дробных экспанатаў. Твой твар скамянее, каб адбіць паталягічную прагу адзіноты і свабоды. Як шкляр, яны выдзьмулі тваю надзвычайную непранікальнасьць, і яна няцямна бянтэжыцца перад чужым дрыжаньнем. І ў гэтай дрыготкай неспасьціжнасьці ты выбіраеш свае калекцыйныя штучкі: адчыненае вакно, канапу, птушак і кнігу. Ты нават не хаваесься — ты проста разводзіш рукамі. А я — у самоце, сухой і нэрвовай, глынаю адраджальную й ненавісную непазьбежнасьць... адчыненай форткі, канапы, птушак і кнігі. І няхай я дасьледую ў недарэчнасьці смак віна, але ўсё ж дачакаюся тваёй дабраахвотнай уважлівасьці і гарбаты. Як кадкамі зь фікусамі, я дапамагу табе засадзіць маім імем дом, каб яно пацямнела й зьнікла. І сярод жудаснай абыдзёншыны, зь мяккай булкай, зморшчаная старая, я ўсё-ткі застагну ад жаданьня, калі выстрымну крошку на твой мёртвы рот. Ні зганеная, ні ўзнагароджаная. За ўсё жыцьцё — твой адзіны пэрл.



Фота Іван Пінкава

## ЗАНАТОЎКІ ЭГАІСТА

*Адам Глёбус*

### Добра атрымліваецца ў кіно...



Заўсёды добра глядзяцца на кінаэкране вершнікі. Вершніцы таксама някепска атрымліваюцца ў кіно.

Калыханьне фіранак, запавесаў, штораў выдатна аздабляе любы кінасюжэт.

Разьбіваньне шкла, посуду, вітрынаў, шыльдаў проста зачароўвае, калі іх адздымуць на плёнку. Асабліва ўражвае разьбіваньне кулямі вялікага акварыюма з жывымі залатымі рыбінкамі, найбольшы эфэкт дасягаецца не ў кінатэатры, а дома ў тэлевізары.

Выбухі, пажары, руйнаваньне — знаходкі для кінавытворцаў.

Кінаапэратары вельмі любяць фіксаваць розныя віры, струмяні, кроплі, плыні, і яны не памыляюцца ў сваёй любові.

Узьлёты й пасадкі самалётаў прысутнічаюць у кожным другім фільме, як і цягнікі. Мне яны не асабліва падабаюцца, але ў кіно атрымліваюцца добра.

Някепска глядзяцца на экране пахаваньні, хаўтуры і іншыя ўрачыстасьці, асабліва калі яны з часам страчваюць ідэалягічную афарбоўку.

Непрыстойныя жэсты выглядаюць на кінаэкране занадта тэатральна, але трапляюць у лік набыткаў праз сваю прыродную яскравасьць ды эратычнасьць.

Яшчэ добра атрымліваецца на кінаэкране дэльфін, які выскоквае з вады і пасьля падае — вяртаньне ў водную стыхію.

А яшчэ на экране добра глядзяцца чорныя акуляры.

### Не глядзіцца на кінаэкране...

Вельмі кепска глядзяцца на экране інваліды, бо ўвесь час узьнікае сумнеў: а ці сапраўды ён сьляпы, а ці сапраўды ў яго няма нагі, а можа ён яе ўдала схаваў, каб нас падмануць?

Кепска атрымліваюцца на экране колеры; кіно і тэлевізія ў першасутнасьці сваёй манахромныя, і пра гэта варта памятаць.

### Пра тое, што можна пачуць, але нельга пабачыць...

Нельга пабачыць, але можна пачуць, як драпежна скрыгоча зубамі цягнік.

Можна пачуць, хоць і нельга пабачыць, як тонкія пальцы начнога дажджу пастукваюць па бляшаным падваконьні.

Можна, калі стаіцца й прыслухацца, пачуць, як стамлёны жыцьцём векавы дуб уздыхне й хмыкне.

### З кім нельга спрачацца...

Нельга спрачацца з мэдсястрою; зь міліцыянтам лепш не ўступаць у спрэчку; нічога не давядзеш і настаўніку фізычнай культуры.

# ДУМКІ

Быць сваім уласным міністрам унутраных справаў.

Многія з тых, хто апярэдзіў час, былі вымушаныя чакаць яго ў ня надта выгодных памяшканьнях.

Непісьменныя мусяць дыктаваць.

Ці людажэрца мае права казаць ад імя тых, каго ён зьеў?

Гавары мудра: вораг падслухоўвае.

Француская Рэвалюцыя на прыкладзе паказала, што прайграюць тыя, хто страчвае галовы.

Плягіятары сьпяць спакойна. Муза — жанчына, і рэдка прызнаецца, хто быў першы.

Будзь рэалістам: не кажы праўды.

Усё ўжо напісана. На шчасьце, ня ўсё яшчэ падумана.

Улада часьцей пераходзіць з рук у рукі, чым з галавы ў галаву.

А можа хай два Гамлеты б'юцца: каму зь іх быць, а каму ня быць?

Сена, што ў галаве некаторых паэтаў, відавочна не падабаецца Пэгасу.

У некаторых крыніцах натхненьня музы мыюць ногі.

Калі слова робіцца целам, то перастае быць літаратурай.

Набліжаючыся да праўды, мы аддаляемся ад рэчаіснасьці.

Людзі маюць спозьненую рэакцыю: разумеюць звычайна толькі у наступных пакаленьнях.

За колькі галасоў лічыцца ў галасаваньні голас гісторыі?

Я ня згодны з матэматыкай. На маю думку, сума нулёў дае грозную лічбу.

Увесь дзень я ня мог прыгадаць слова "гільятына". Галава баранілася.

Ня кожны чалавек, які зашмат ведае, пра гэта ведае.

Сапраўднага мужчыну можна пазнаць нават калі ён голы.

Калі нараджаецца пэсымізм? Калі сутыкаюцца розныя аптымізмы.

Разумовая правінцыя — спробы мысьленьня на адлегласьці ад мозгу.

Часьцей за ўсё страчваюць свабоду тыя, хто яе прагне.

Люблю чытаць жыцьці некаторых сьвятых ад канца, бо тады я пачынаю верыць, што нехта зноў можа стаць чалавекам.

Некаторыя людзі пазбаўленыя дару бачаньня праўды. Але якой жа шчырасьцю нясе ад іхнай хлусьні.

Д'ябал ня сьпіць. Абы з кім.

Канец нэкралёгу: Не памёр. Зьмяніў лад жыцьця.

Некаторыя думкі прыходзяць у галаву пад канвоем.

Чалавек — пабочны эфэкт каханьня.

Які ж дабрабыт мусіць быць у дзяржаве, якая дазваляе сабе з паловы насельніцтва зрабіць паліцыю, а другую палову трымаць на дзяржаўным хлебе ў турме.

"Вышэй галаву!" — сказаў кат, закідваючы пятлю.

Сумна, калі хрыбет выпроствaецца толькі на крыжы.

Сумленьне нараджаецца часам зь ягоных дакораў.

Ах, колькі ж Атлянтыдаў на палітычных мапах!

Я пішу адно прынагодныя творы: пра жыцьцё.

Няведаньне законаў не вызваляе ад адказнасьці. Але веданьне —часта.

Сапраўдны вораг ніколі цябе не пакіне.

Некаторыя нацыянальныя трагедыі ня ведаюць паўзаў.

Мне сьніўся Фройд. Што гэта азначае?

Гісторыя — гэта збор фактаў, якія не абавязкова йснавалі.

Ён напісаў: "Пагалоўс быдла ўзрастае". Аптыміст? Пэсыміст?

"І золак кідае цені!" — сыкнула цемра. "Але ў іншы бок", —растлумачыў золак.

Пытаеш, чаму людзі выскокваюць з карабля, які ня тоне? Яны заўважылі, куды ён іх вязе.

Калі хамэлеон пры ўладзе, ён зьмяняе колер атачэньня.

Сьвет заўсёды вяртаецца да нормы. Важна, да чыёй.

Я бачу яго наскрозь і ведаю, хто за ім стаіць.

Ня ўсё, што хістаецца, можа быць калыскай.

Ёсьць знакі на небе й на зямлі. Вучыся распазнаваць іх дзяржаўную прыналежнасьць.

Эпохі стварае археалёгія.

Многія рэчы трэба давесьці да абсурду, хай пазнаёмяцца з уласным бацькам.

Пераклаў з польскай Аляксандар Айна.



# МРОІ

НАЦЫЯНАЛЬНЫ МУЗЭЙ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСІ

## ВЫСТАВА ДЗЯНІСА РАМАНЮКА

**АДКРЫЦЬЦЁ — 17 ТРАЎНЯ А 17 ГАДЗІНЕ**

© НАША НІВА Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая Наклад 5000 Нумар падпісаны ў друк 12.5.1996 Надрукавана ў ЗАТ "Lietuvos Rytas" (Вільня, праспэкт Гедыміна, 12а)